

# Паляўнічы Беларусі








№ 4
красавік
1932

Ахоўвай паляўнічыя ўгоддзі



# ПАСТАНОВА

## ўпаўнаважанага народнага камісарыяту замежнага гандлю СССР пры СНК БССР

**4/IV 1932 г., г. Менск**

## ПРА АРГАНІЗАЦЫЮ ЗАГАТОВАК ВЕСНАВЫХ ВІДАЎ ПУШМЕХСЫРАВІНЫ.

У дадатак да пастановы ўпаўнаважанага НКЗГ СССР пры СНКБ ад 15/IX-31 г. аб арганізацыі пушмехзагатоўчага рынку на IV-ты квартал 1931 г. і 1932 г. Упаўн. НКЗГ па БССР **пастанаўляе:**

### I. Мэтады загатовак веснавых відаў пушмехсыравіны

1. Улічваючы, што кантрактацыя зьяўляецца вытворчай змычкай з вытворцам сыравіны і шырокай масавай работай, мабілізуючай грамадзкія сілы, што кантрактацыя для калгасьніка спрыяе ўзмацненьню калектывізацыі, прызнаць, што асноўным мэтадам работы па веснавых відах загатовак пушмехсыравіны павінна быць кантрактацыя ўсёй пушмехавой прадукцыі, за выключэньнем жэрабка і мярлушкі.

2. Кантрактацыйныя дагавары заключаюцца ўсімі загатоўчымі арганізацыямі, якія дапушчаны да пушмехзагатовак, з калгасамі, аднаасобнікамі, бядняцкімі і серадняцкімі гаспадаркамі, паляўнічымі, школамі і інш. грамадзкімі арганізацыямі—на падставе тыпавых дагавароў, распрацаваных Белпушнінай і зацьверджаных Упаўн. НКЗГ СССР пры СНКБ.

Саўгасы заключаюць цьвёрдыя дагавары на здачу ўсёй сваёй пушмехавой прадукцыі выключна мясцовым органам Белпушніны.

3. Кулацка-заможныя гаспадаркі не кантрактуюцца і здаюць сваю прадукцыю ў парадку цьвёрдых заданьняў.

4. Прапанаваць усім загатоўчым арганізацыям да 15/IV-32 г. ахапіць кантрактацыяй веснавыя віды пушмехсыравіны, забясьпечваючы 100-процантнае выкананьне загатавіцельнага пляну і прыцягваючы да гэтай працы грамадзкасьць раёнаў.

5. Авансаваньне па заключаемых кантрактацыйных дагаварох праводзіцца паквартальна. Размер авансу па заключаных кантрактацыйных дагаварох як з праўленьнямі калгасаў, так і з паасобнымі калгасьнікамі, школамі і інш. арганізацыямі ўстанавіць наступны: па пушніне—40 проц., па мехсыравіне—35 проц., па аднаасобным сэктары з паасобнымі лаўцамі і здатчыкамі па пушніне—30 проц., па мехсыравіне—25 проц.

6. Абавязаць усіх загатавіцеляў прадстаўляць сваім цэнтральным загатоўчым арганізацыям дэкадныя зьвесткі аб ходзе кантрактацыі паступленьня пушмехсыравіны па кантрактацыі і апэрацыйныя зьвесткі аб ходзе загатовак, пасьля чаго цэнтральныя арганізацыі гэтыя зьвесткі прадстаўляюць Упаўн. НКЗГ.

Паказаныя зьвесткі прадстаўляюцца па форме, пасланай 23/II 1932 г. пад № 32/5.

### II. Работа пушмехзагатавіцеляў у калгасах

1. На падставе вопыту работы пушмехзагатавіцеляў у калгасах у IV кв. 1931 г. і ў I кв. 1932 г. па арганізацыі ў іх пушнога промыслу і здабычы пушмехсыравіны, лічыць неабходным далейшае замацаваньне арганізацыйнай, апэрацыйнай і вытворчай сувязі асноўных пушмехзагатавіцеляў з калгасамі і калгасьнікамі.

Асобную ўвагу патрэбна зьвярнуць на арганізацыю зборшчыкаў пушмехсыравіны, зьёмшчыкаў скурак, утварэньне сталых брыгад па здабычы пушмехсыравіны, правільнай расстаноўкі сіл брыгад, задавальненьне брыгад неабходнымі прыладамі лову, устанаўленьне загатоўчых заданьняў кожнай брыгады паасобку, разьмеркаваньне адведзеных вучасткаў паміж брыгадамі і мецъ сталы кантроль за ходам працы брыгад.

2. Прымацаваньне асобных калгасаў да загатоўчых арганізацый, учыненае ў пэрыяд заключэньня кантрактацыйных дагавароў на зімовыя віды пушмехсыравіны, у асноўным пакінуць у сіле. Надаць права райснабу учыняць пераразмеркаваньне прыпіскі калгасаў да тэй ці іншай загатоўчай арганізацыі ў залежнасьці ад яе фактычнай удзельнай вагі ў II кв. 1932 г. і фактычнага ахопу працы ў прымацаваных калгасах раёнаў у IV кв. 1931 г. і ў I кв. 1932 г., улічваючы рэарганізацыю загатоўчага апарату Белхлебжывсаюзу.

### III. Работа пушмехзагатавіцеляў у індывідуальным сэктары

1. Кантрактацыйныя дагавары з бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі, як з асобнымі лаўцамі, так і з групамі, арцелямі лаўцоў, пры чым апошнім павінна быць дадзена перавага перад аднаасобнікамі ў сэнсе стымуляваньня іх прамтаварамі.

2. У мэтах максымальнага ахопу пушмехавога рынку не абагуленага сэктара, абавязаць усіх загатавіцеляў значна пашырыць сець падворных, разьяздных і стацыянарных зборшчыкаў. Апошнія павінны вербавацца з калгасьнікамі і бядняцка-серадняцкага актыву.

Для забесьпячэньня правядзеньня зборкі пушмехсыравіны, а таксама арганізацыйнай і агітмасавай работы па распрацоўцы пушнога промыслу, устанаўленьня дагаворных узаемаадносін з кантрактантамі, прыцягнуць да гэтай справы шырокія масы беднякоў і сераднякоў.

Парадак працы зборшчыкаў і аплата іх працы прадугледжаны ў пастанове Упаўн. НКЗГ па БССР ад 15/IX 1931 г.

*(Працяг гл. на 3 стар. вокладкі)*

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ.


ЗЬМЕСТ


Кожная новая перамога працоўных СССР набліжае час Сусьветнай Пралетарскай рэвалюцыі—**Перадавая.**

Першае Мая—агляд сіл сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі — **У. Дуброўскі.**

Барацьба з лясными пажарамі — важнейшая задача кожнага паляўнічага—**А. С—ка.**

Да IX зьезду ўпаўнаважаных Белкахотсаюза—**П. Бабчонак.**

Пра насьценгазэты ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі.

Правіла арганізаваць веснавое паляваньне—**С.**

Паляўнічы сэзон у Рагачэўскім раёне—**Ш—ль.**

Глушэц—**Ф. А. Ялін.**

Папярэднія даныя пра размнажэньне бабра ў Беларускім дзяржаўным паляўнічым запаведніку—**Віткоўскі.**

Воўк—забіты камнем.

Пэрспэктывы разьвіцьця рыбаводнае прудовае гаспадаркі ў БССР — **П—ка.**

Крытыка і самакрытыка.

Воўк і яго зьнішчэньне — **Ф. А. Ялін.**

Зімовыя набегі (апавяданьне) — **М. Цэлеш.**

Хроніка.



№ 4

КРАСАВІК

1932 г.


# Кожная новая перамога працоўных СССР набліжае час Сусьветнай Пралетарскай рэвалюцыі

Пралетарыят і працоўныя масы Савецкага саюзу сустракаюць ў гэтым годзе першамайскія сьвяты радам нябачана гіганцкіх посьпехаў на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва. Гісторыя любой капіталістычнай краіны, усяго чалавецтва дагэтуль ня ведалі такіх шпаркіх тэмпаў будаўніцтва, такога найвышэйшага ўзьлёту хвалі творчага энтузіязму працоўных мас, якія мы можам наглядаць зараз па ўсім Саюзе, па кожнай савецкай рэспубліцы. У нястомнай, гераічнай барацьбе за генэральную лінію камуністычнай партыі, за практычную рэалізацыю заветаў свайго вялікага правадыра і настаўніка Леніна, пры выпрабаваным кіраўніцтве сваёй жалезнай партыі бальшавікоў—ленінцаў, пралетарыят, у саюзе з працоўным сялянствам, ідзе да новых і новых рашаючых посьпехаў, якія зьяўляюцца здабыткам усяго чалавецтва ў яго барацьбе за перамогу пралетарскай рэвалюцыі ва ўсім сьвеце.

Савецкі саюз—як база міжнароднага сацыялізму, у гэтым годзе будзе дэманстраваць свае дасягненьні і сілу ў абставінах, калі капіталістычны сьвет корчыцца ў дрыжыках глыбейшага фінансава-эканамічнага крызісу, калі з нястрымнай сілаю працягваецца разбурэньне вытворчасьці, а галодныя арміі беспрацоўных затапляюць вуліцы гарадоў усіх капіталістычных дзяржаў. Пад ударамі прыбояў крызісу абанкроціліся сусьветныя капіталістычныя аб'яднаньні, як: концэрн Крэйгера, сусьветная авіяфірма Юнкерса; знаходзяцца на парозе да банкроцтва сталёвыя трэсты Амэрыкі і Нямеччыны. Сёнешняя фаза ў разьвіцьці сусьветнага эканамічнага і аграрнага крызісу зусім зьбівае з панталыку самых верных вартавых псоў капіталістычнага сьвету, якія, у пошуках якога-б ня было мірнага выйсьця з крызісу, застаюцца бездапаможнымі і не знаходзяць яго. Характэрнай у гэтых адносінах зьяўляецца заява такога замацярэлага ворага рэвалюцыі, як глава італьянскага фашызму—Мусаліні. „Мы вымушаны сазнацца, што нічога ня ведаем, што нічога не разумеем у тым, як выйсьці з нашага няшчасьця, мы спыталі дзюжыну вучоных аб прычынах разбурэньня нашага апарату і атрымалі дванаццаць розных адказаў“, — так вымушаны прызнацца Мусаліні.

Пры актыўнай дапамозе сацыялфашыстаў, буржуазія шукае выйсьця з тупіка. Яна ўзмацняе свой наступ на рабочую клясу і працоўныя масы гораду і вёскі, яна ўзмоцнена рыхтуецца да ўзброенага нападу на Савецкі саюз,—адзіную краіну, якая знаходзіцца за межамі крызісу і якая, з посьпехам будуючы сацыялізм, ня мае ў сябе ніводнага беспрацоўнага. Апошні факт становіцца асабліва паказальным, калі прыняць пад увагу дзесяткі мільёнаў працоўных, якія ў капіталістычным сьвеце абрачаны на галодную сьмерць. Некаторыя карэспандэнцыі буржуазнага друку Польшчы нагадваюць сабой сярэднявечча. Зусім неадзіночны факты продажу жывых людзей. Даведзеныя да галечы і разбурэньня сялянскія масы Заходняе Беларусі пачынаюць прадаваць на рынку саміх сябе, сваіх дзяцей, жанок.

Мала чым лепшае становішча тых, хто працуе. Спробы павялічыць працоўны дзень, зьменшыць заробак, робяцца ўсё больш і больш частымі (Нямеччына, Польшча, Францыя, Амэрыка).

На гэтым фоне з вялікай сілай узрастае нездавальненьне працоўных мас, ствараюцца неабходныя прадпасылкі для рэвалюцыйнага крызісу ў шэрагу краін. Ніхто з вартавых капіталістычнага сьвету ня мае магчымасьці спыніць уздым рэвалюцыйнай хвалі. Шыбеніца салдафона Пілсудзкага, пропаведзі папы рымскага, хлусьлівыя ўвешчаваньні сацыял-здраднікаў, турмы і расстрэлы—застаюцца бясьсільнымі, каб задушыць рэвалюцыйныя рух.



Першае Мая гэтага году нашы зарубежныя браты — рабочыя ды сяляне—сустракаюць пад сьцягам камуністычнай партыі, пад яе кіраўніцтвам выходзяць на вуліцы. Сталёвых калён прале-



тарыяту ня ў сілах будзе затрымаць ні тэрор і пагрозы буржуазіі, ні бомбы, ні кулямёты і бізуны жандармэрыі Яны выйдуць на вуліцы пад баявымі чырвонымі сьцягамі і будуць дэманстраваць супроць наступу буржуазіі на жыцьцёвы ўзровень працоўных, супроць фашызму і сацыял-фашызму, за яднаньне сваіх шэрагаў вакол камуністычнай партыі, супроць падрыхтоўкі нтэрвэнцыі на Савецкі саюз,—бацькаўшчыну сусьветнага пралетарыяту.

Як і ўвесь Савецкі саюз, БССР—яго сустаўная частка і аванпост на рубяжы з капіталістычным Захадам, за гады дыктатуры пралетарыяту ў непадзельным саюзе з працоўнымі масамі ўсіх нацыянальнасьцяй СССР,—штодзенна, штогадзінна ўпрыгожвае сваю тэрыторыю густой сеткай фабрык, заводаў, камбайнаў, якія аб'ядналі дзесяткі тысяч рабочых. Тысячы калгасаў аб'ядналі ў сабе сотні тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а сталёвыя калёны трактарных станцый, агалашаючы сваім рытмам самыя глухія ў мінулым куткі і краіны, спалыснулі спрадвечныя межы ўбогіх ніў і ператварылі іх вузкія шнуры ў прасторы квітнеючых калгасных палёў. Руйнуецца спрадвечная вялікая разьбежнасьць між горадам і вёскай. На базе індустрыялізацыі краіны, на базе падвядзеньня магутнай машыннай тэхнікі пад сельскагаспадарчую вытворчасьць працуе 50 проц. былых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. На базе суцэльнай калектывізацыі ліквідуецца кулацтва. У 1932 г. у асноўным будзе закончана калектывізацыя.

З адсталай у мінулым у прамысловых адносінах краіны дзе ўся прамысловасьць насіла дробны, саматужны характар з сярэднявечнай тэхнікай, Савецкая Беларусь зрабілася і з кожным днём робіцца краінай індустрыяльна-аграрнай. Даволі паказаць на дынаміку ўзрастаньня ўдзельнае вагі прамысловай прадукцыі за апошнія 2—3 гады, каб упэўніцца ў нязначных раней тэмпах: ужо ў 1929 30 г. прадукцыя прамысловасьці складала 38,7 проц. да прадукцыі ўсяе народнай гаспадаркі, а ў 1931 г. прадукцыя прамысловасьці заняла 50 проц. у агульнай вытворчасьці. Валавая прадукцыя прамысловасьці ў 1931 узьнялася да 703,8 млн. руб. За два апошнія гады Савецкая Беларусь прыняла ў эксплёатацыю шэраг уноўпабудаваных гігантаў — БелДРЭС, Гомсельмаш. Магвалакно і інш.

На грунце гэтых вялікіх заваёў і няўхільнага правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі, БССР дасягнула агромных посьпехаў у галіне культуры. Першае мая гэтага году краіна сустракае будучы суцэльна-пісьменнай: ліквідавана цяжкая спадчына царызму—70 проц. няпісьменнасьці.

Дакастрычнікавая Беларусь—„акраіна недзялімай Расіі“ ня мела ніводнай вышэйшай навучальнай установы, ніводнай навукова дасьледчай установы, а зараз іх налічваюцца дзесяткі. 27 навукова-дасьледчых установ, 27 вышэйшых навучальных установ, 94 тэхнікумы і шэраг ФЗВ сьцягнулі ў свае лябараторыі і аўдыторыі тысячы сыноў рабочай клясы і працоўных мас, якія пад кіраўніцтвам партыі, на аснове марксыцка-ленінскай тэорыі, напружана змагаюцца за аўладаньне навукай і тэхнікай, за рэалізацыю лёзунгу партыі—бальшавікі павінны аўладаць навукай і тэхнікай, каб пасьля насычаць найноўшымі дасягненьнямі ўсе працэсы сацыялістычнай вытворчасьці.

Савецкі саюз перагнаў ужо рад капіталістычных краін і шпаркімі крокамі даганяе самыя перадавыя капіталістычныя дзяржавы. Усе посьпехі і дасягненьні прынясьлі і нясуць бесьперапыннае палепшаньне матар'яльнага становішча працоўных мас гораду і вёскі.

З вялізарнымі посьпехамі заканчваецца выкананьне пляну першае пяцігодкі, а „праз 8 месяцаў краіна ўступае ў другое пяцігодзьдзе, на працягу якога будзе пабудавана бясклясавае сацыялістычнае грамадзтва і закончана тэхнічная рэканструкцыя ўсіх галін народнай гаспадаркі“.

Як і ўсе іншыя галіны сацыялістычнага будаўніцтва, паляўнічая гаспадарка Беларусі таксама сустракае першая мая шэрагам буйных посьпехаў. Саюз паляўнічых аб'яднаў у сваіх радох 36.763 таварышоў.

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі праведзена саюзам вялікая праца па ачыстцы паляўнічай каапэрацыі ад кулацтва, абшарнікаў і іншага чужацкага элемэнту.

На працягу 1932 г. будзе праробленa вялізарная праца па рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі на асновах плянавага і няўхільнага падвядзеньня пад яе вялікай базы заказьнікаў і інш. У 1932 г. будзе дадаткова адчынена 68 новых вялізарных заказьнікаў. На адчыненьне іх будуць укладзены тысячы руб. Арганізоўваецца 60 прыпісных гаспадарак, якія дапамогуць узьняць прадукцыйнасьць паляўнічага промыслу, будуць садзейнічаць плянавай эксплёатацыі паляўнічых угодзьдзяў.

Вялікая армія паляўнічых можа з посьпехам выканаць і перавыканаць паказчыкі свайго кантрольнага пляну на 1932 г. і павінна надаць выключную ўвагу барацьбе за выкананьне 4-га году першай пяцігодкі. Выкананьне пляну трэцяга рашаючага і першага кварталу чацьвертага заключнага году пяцігодкі сьведчыць аб поўных магчымасьцях зрабіць гэта. Зразумела, нас ня можа задаволіць тое, што дасягнута намі, мы павінны па-бальшавіцку змагацца за новыя, вышэйшыя і вышэйшыя тэмпы, за перабудову ўсяе працы на аснове рэалізацыі шасьці гістарычных умоў т. Сталіна, якія зьяўляюцца адзіным ключом для далейшых перамог.

Вялікая праграма пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва ў другой пяцігодцы павінна быць дасканала вывучанай і вядомай кожнаму сьвядомаму працоўнаму Савецкага саюзу.

Кожная канкрэтная справа пляну вялікіх работ, кожнае мерапрыемства, якое выцякае з генэральнай лініі партыі, а ў тым ліку і выкананьне плянаў паляўнічай гаспадаркі, вядуць да адзінай вялікай мэты—пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

Разам з мільёнамі ўсіх працоўных, паляўнічыя Савецкай Беларусі прадэманструюць сваю гатоўнасьць тэмпамі сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва змагацца за выкананьне плянаў сацбудаўніцтва і, канкрэтна, плянаў паляўнічай гаспадаркі.

Кожная новая перамога працоўных СССР набліжае час пралетарскай рэвалюцыі ў міжнародным маштабе.

Паляўнічыя, як узброеная армія, прадэмонструюць сваю гатоўнасьць зьвязаць свой лёс з лёсам сусьветнага пралетарыяту і па першаму заклiку камуністычнай партыі і савецкай улады выступіць на дапамогу сваім братом па клясе.

# Першае Мая—агляд сіл сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі

Міжнароднае сьвята працы 1-е Мая у гэтым годзе саўпадае з папоўска-буржуазным сьвятам „пасхай“. Гэта два рэзка працівалеглых сьвяты. 1-е Мая — сьвята пралетарыяту, „пасха“—сьвята папоў усіх колераў, буржуазіі і кулацтва.

1-е Мая—сьвята будуючагася сацыялізму, „пасха“—сьвята гінучага капіталізму.

1-е Мая—агляд сіл сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі. 1-е Мая заклікае пралетарыят усяго сьвету да бязьлітаснай барацьбы з буржуазіяй, барацьбы за дыктатуру пралетарыяту, заклікае да абароны сваёй сацыялістычнай бацькаўшчыны — СССР. У Савецкім саюзе — 1-е Мая зьяўляецца днём агляду посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва, мабілізуе рабочыя і працоўныя масы на барацьбу за выкананьне плянаў чацьвертага заключнага году пяцігодкі, на вырашэньне сусьветнагістарычных задач другой пяцігодкі, якія вызначаны XVII Усесаюзнай партканфэрэнцыяй і XIV зьездам КП(б)Б.

1-е Мая заклікае да пабудовы бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

„Пасха“—сьвята, якое заклікае да пакорлівасьці, да цярплівага і маўклівага перанясеньня лішэньняў і гвалту крывавага капіталізму. „Пасха“—сьвята, якое патрэбна эксплёататарам, каб спакойна смактаць свае ахвяры. „Пасха“ — гэта цемра і абман. „Пасха“—сьвята нявольнікаў.

Невыпадкова, што „пасха“ бярэ свой пачатак у сівой старыне. Дзікун—нявольнік прыроды—лічыў сонца богам, ствараў у гонар яго сьвяты, сярод якіх былі і сьвяты аналёгічныя „пасхе“.

Эксплёататары і іх агенты—папы і склалі лягенду аб умершым і ажыўшым боге, устанавілі сьвята „пасху“ як сродак умацаваньня іх панаваньня.

У дні „пасхі“ папы пяюць аб клясавым міры, заклікаюць бедняка да абнімку з кулаком, рабочага да абнімкаў з фабрыкантам.

Першае мая і „пасха“ — сьвяты дзьвюх працілеглых, знаходзячыхся ў бязьлітаснай барацьбе сыстэм—сацыялістычнай і капіталістычнай.

Капіталістычная сыстэма пад ударамі крызісу трашчыць па ўсіх швох. Папы ўсіх колераў сьцьвярджаюць, што капіталізм вечан, што ён устаноўлен богам. Да чаго-ж дайшоў гэты эксплёататарскі строй?

Звыш 40 мільёнаў беспрацоўных, сярод якіх пануе голад і галеча. А ў гэты час буржуазія зьнішчае розныя прадукты, каб толькі захаваць на іх цану. Гэта—у капіталістычных краінах. У Савецкім саюзе беспрацоўя няма. Яно цалкам ліквідавана. У Савецкім саюзе маецца шпаркі рост рабочых і служачых, колькасьць якіх даходзіць да 17 млн.

У нас будуюцца заводы-волаты, з першакляснай сусьветнай тэхнікай: Магнітабуд, Кузьнецкбуд, валавая прадукцыя прамысловасьці дае нячуваны ў гісторыі капіталізму прырост: за першы квартал бягучага году выпуск прадукцыі прамысловасьці ўзрос на 19 проц., а па цяжкай—на 34,5 проц.

А ў капіталістычных краінах гаспадарка адшвырнута на некалькі дзесяткаў год назад. Германія па агульнай колькасьці прадукцыі адкінута назад да ўзроўню 1890 г., г. зн. на 40 год назад. САЗШ у галіне мэталюргіі адкацілася на ўзровень 1900 г.

Капіталістычная сыстэма перажывае крызіс культуры. У адной толькі Германіі 30 тысяч беспрацоўных акадэмікаў. У Польшчы, в прычыны скарачэньня школьнай сеткі, засталося па-за школай 100 тыс. дзяцей.

У нас да 1-га Мая БССР прыдзе краінай суцэльнай пісьменнасьці. А да Кастрычніка БССР была на правох калёніі царскай Расіі і мела 70 проц. няпісьменнага насельніцтва.

І ў прамысловасьці і ў сельскай гаспадарцы капіталістычных краін крызіс штодзень астаўляе спусташаючыя сьляды.

Савецкі Саюз на рэйках індустрыялізацыі і калектывізацыі шпарка імчыцца па шляху сацыялістычнага будаўніцтва.

Пралетарыят Савецкага Саюзу пад кіраўніцтвам партыі ясна бачыць свае мэты, ведае канкрэтныя шляхі, з энтузіязмам змагаецца за вырашэньне сваіх гістарычных задач.

Капіталістычны мір ахоплен панікай. „Мы прымушаны сазнацца, што нічога ня ведаем, што нічога не разумеем у тым, як выйсьці з бядоты“, — гаворыць правадыр фашызму Мусаліні.

Папы і капіталісты раяць беспрацоўным... маліцца. Іншага выйсьця з беспрацоўя яны ня здольны знайсьці.

Выхад з крызісу, выхад з тупіка капіталісты шукаюць у вайне—і ў першую чаргу ў вайне супроць Савецкага Саюзу. „З пункту погляду цьвярозага эканаміста вайна зьяўляецца гаспадарчым мерапрыемствам буйнейшага маштабу. У час вайны справы некаторых краін заўсёды паляпшаюцца“, — піша адна з буржуазных часопісяй.

Ваенная прамысловасьць у капіталістычных краінах працуе безперабою. Пад шумок разгавораў аб разбраеньні імпэрыялістычная Японія захапляе тэрыторыі Кітаю, арганізуюцца сілы для нападу на СССР.

Цэрквы прымаюць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы інтэрвэнцыі супроць Савецкага Саюзу. У 1930 г. рымскі папа заклікаў да крыжовага паходу супроць СССР.

Цэрква—контррэвалюцыйная сіла.

Папы, усіх колераў рэлігійнікі ў нас разгортваюць шкодную работу, імкнучыся ўзяць пад свой уплыў адсталыя пласты рабочых, калгасьнікаў; распускаюць хлусьню аб перанясеньні сьвята 1-га Мая ў сувязі з тым, што яно саўпадае з „пасхай“, агітуюць за нявыхад на работу ў дні „пасхі“.

Шкоднай дзейнасьці чорнай зграі трэба даць рашучы адпор.

У дзень 1-га Мая ўсе рабочыя, усе працоўныя Савецкага саюзу пад чырвонымі сьцягамі будуць дэманстраваць сваю братэрскую салідарнасьць з працоўнымі ўсяго сьвету; будуць дэманстраваць сваю згуртаванасьць вакол камуністычнай партыі,

сваю гатоўнасьць рашуча змагацца за ажыцьцяўленьне рашэньняў XVII партканфэрэнцыі.

У дні „пасхі“ рабочыя і калгасьнікі яшчэ шырэй разгорнуць сацспаборніцтва і ўдарніцтва па выкананьні народна-гаспадарчага пляну, яшчэ больш увагі нададуць умацаваньню абароназдольнасьці Савецкага Саюзу, які цьвёрда стаіць на варце міру, сьледуючы ўказаньню свайго правадыра тав. Сталіна—„Ніводнай пядзі чужой зямлі ня хочам, але і сваей зямлі ніводнага вяршка не аддамо нікому“.

Рэлігія—упарты і шкаднейшы перажытак капіталізму.

Шырэй рады бязбожнікаў, шырэй разгорнем работу па хутчэйшаму ўжыцьцю гэтага перажытку капіталізму сярод працоўных.

**Ул. Дуброўскі.**

# Барацьба з лясными пажарамі — важнейшая задача кожнага паляўнічага

Ня трэба даводзіць зараз той бясспрэчнай ісьціны, што лес для паляўнічага—галоўнае месца яго паляўнічага промыслу. А з гэтага пункту гледжаньня справа аховы нашых лясоў—яго кроўная справа. Можа хто з паляўнічых усумніцца, аднак, у гэтым неабвергальным палажэньні, выходзячы з таго, што для аховы лесу існуе цэлая гаспадарчая сыстэма—нашы леспрамгасы, якія маюць для гэтай мэты спэцыяльных працаўнікоў, цэлы рад вартаўнікоў і г. д.

Але-ж каб які-небудзь паляўнічы дазволіў-бы сабе гэта, ён, гэтым самым, выявіў-бы, у лепшым выпадку, неразуменьне сваіх задач, задач паляўнічай сыстэмы наогул. Бо зусім зразумела, што ахова лесу, у шырокім сэнсе — справа ня толькі Леспрамгасаў, скажам, але справа ўсяго сьвядомага насельніцтва, справа кожнага сьвядомага грамадзяніна і перш за ўсё справа кожнага паляўнічага. Бо зусім зразумела, што гэта ахова не вычэрпваецца аднэй толькі барацьбой з лесапарубшчыкамі, але патрабуе і цэлага раду іншых форм. І гэта таму, што і лесазьнішчэньне не заключаецца выключна ў самавольных парубках, але таксама мае і шмат іншых форм.

Галоўнейшай і самай страшнай, шкоднай па выніках, з гэтых форм зьнішчэньня лесу зьяўляюцца, бясспрэчна, лясныя пажары. Пры чым, дзякуючы таму, што ўзьнікненьне апошніх мае цэлы рад прычын, змаганьне з імі—далёка ня лёгкая справа, якая ні ў якім разе ня можа быць выканана аднэй сыстэмай леспрамгасаў.

Вось чаму кожны паляўнічы ў паасобку і паляўнічая сыстэма наогул ня толькі могуць, але і абавязкова павінны прыняць самы чынны ўдзел у барацьбе з пажарамі. Бо менавіта імі (пажарамі) кожны год у БССР зьнішчаюцца вялікія плошчы, цэлыя вучасткі і лясныя масывы, а значыць і вялікая колькасьць розных аб‘ектаў паляваньня — зьвярэй і птушак, асабліва ў зьвязку з той акалічнасьцю, што час найбольшага ўзьнікненьня лясных пажараў прыпадае акурат на пэрыяд гнездаваньня птушак і вывадкаў зьвяроў. Зьнішчэньне-ж гэтых апошніх непасрэдна і перш за ўсё кранаецца менавіта інтарэсаў паляўнічага, ня кажучы ўжо аб тым, што і страты, учыненыя пажарамі дзяржаве, укосна таксама кранаюцца яго-ж, як грамадзяніна.

Выходзячы з усяго адзначанага, неабходна зараз-жа перад кожным паляўнічым, перад паляўнічай сыстэмай, з усёй выразьлівасьцю і катэгарычнасьцю ставіць задачу пра сталы сыстэматычны ўдзел у барацьбе з пажарамі і з прычынамі, што выклікаюць іх. Пры чым, канкрэтна гэтыя задачы павінны грунтавацца і выходзяць у кожным паасобным выпадку з уліку менавіта прычын іх узьнікненьня. Гэтых-жа прычын можа быць шмат.

Перш за ўсё лясы Беларусі знаходзяцца ў пагражаючым пажарным становішчы, дзякуючы вялікай т. зв. захламленасьці іх. А ў зьвязку з гэтым ўсямерная ачыстка лясоў ад хламу, садзейнічаньне ёй з боку кожнага паляўнічага павінна зьяўляцца аднэй з форм удзелу яго ў папярэджваньні ўзьнікненьня і разьвіцьця лясных пажараў.

Далей. Барацьба з непасрэднымі прычынамі ўзьнікненьня пажараў (з адмысловымі падпаламі, з падпалам ад пакінутых ці не асьцярожна раскіданых вогнішчаў і г. д.) таксама ўваходзіць у абавязак кожнага паляўнічага, не гаворачы ўжо пра тое, што сам ён не павінен дазваляць сабе азначаных учынкаў.

Нарэшце, для барацьбы з узьнікшымі ўжо ад якіх бы там ні было прычын ляснымі пажарамі па лініі леспрамгасаў утвараецца, як вядома, цэлы рад дабраахвотных брыгад. Вось у арганізацыі гэтых брыгад з саміх паляўнічых, а таксама і ўцягненьня ўсіх шырокіх мас насельніцтва: калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і г. д. таксама зьяўляецца і павінна зьяўляцца няўхільным абавязкам кожнага паляўнічага.

Такім чынам ахова леса, як галоўнага месца паляваньня, ад лясных пажараў з мэтаю пашырэньня аб‘ектаў яго (паляваньня) і павялічэньня паляўнічай прадукцыі,—ёсьць адна з галоўнейшых задач разьвіцьця і арганізацыі нашай паляўнічай гаспадаркі.

**А. С—ка.**

---

**Паляўнічы! Ахоўвай лясы! Лясы садзейнічаюць падвышэньню ўраджаяў, а таксама разьвіцьцю паляўнічай гаспадаркі. Змагайся з пусканьнем „палаў“ і сам ніколі не рабі гэтага. Ня кідай у лесе непатушанага кастра, цыгаркі, сярнічкі. Даволі аднэй іскры, каб зрабіць пажар і прынесьці мільённыя страты нашай гаспадарцы.**

**Ад правільнай расстаноўкі сіл залежыць посьпех у рабоце паляўнічай каапэрацыі**

# Да IX зьезду ўпаўнаважаных Белкахотсаюзу

У маі месяцы склікаецца IX чарговы зьезд упаўнаважаных Белкахотсаюзу. Гэты зьезд будзе рэзка адрозьнівацца ад мінулых зьездаў, бо першы пэрыяд арганізацыйна-гаспадарчай працы заканчваецца, сыстэма пераходзіць на новыя сацыялістычныя мэтады працы. Асноўная маса паляўнічых Беларусі каапэравана звыш 90 проц., простае каапэраваньне паляўнічых мас для сыстэмы ўжо зьяўляецца недастатковым.

За мінулыя тры гады пасьля VIII зьезду ўпаўнаважаных Белкахотсаюзу ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі адбыліся вялікія зрухі і зьмены, што ставіць перад IX зьездам упаўнаважаных задачы падвядзеньня вынікаў і вызначэньня канкрэтна-выразных пэрспэктыў далейшага разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі і практычных форм работы, якія спрыялі-б яе арганізацыйна-гаспадарчаму ўзмацненьню. Бо падаючая з году на год прадукцыя, амаль што бязпрызорнай паляўнічай гаспадаркі, без правядзеньня неадкладных мерапрыемстваў у напрамку перабудовы гаспадаркі, ня можа даць гарантыі выкананьня загатоўчых плянаў пушмехэкспарту і мяса-дзічыны. Зьезду неабходна будзе канкрэтна вырашыць насьпеўшае чарговае важнае пытаньне рэальнага будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, як базы, што дае магчымасьць пашырэньня паляўнічай прадукцыі. Бо арганізаваць паляўнічую гаспадарку і адказваць за яе павінны паляўнічая сыстэма ў цэлым, і ў паасобку яе нізавыя зьвеньні.

Сапраўдная праца па зусім новаму шляху разьвіцьця і аднаўленьня гаспадаркі і паляўнічага промыслу магчыма толькі пры ўмове абагульваньня гэтага промыслу. Шляхі-ж гэтага абагульваньня ляжаць праз сыстэму паляўнічай каапэрацыі, праз прыпіску паляўнічых угодзьдзяў і арганізацыю вакол гэтых угодзьдзяў яшчэ разрозьненага паляўнічага—у паляўнічыя калектывы, арцелі, брыгады.

Дзевяты зьезд упаўнаважаных павінен пачаць новы пэрыяд жыцьця паляўнічай каапэрацыйнай сыстэмы. Гэты пэрыяд будзе характарызавацца падвядзеньнем пад усю арганізацыйна-гаспадарчую працу нашай каапэрацыйнай сыстэмы новых сацыялістычных мэтадаў працы, правядзеньнем асноўных мерапрыемстваў па будаўніцтву прамысловай паляўнічай гаспадаркі і арганізацыі паляўнічых мас у высшыя формы каапэрацыйных аб'яднаньняў.

Да IX зьезду ўпаўнаважаных наша каапэратыўная сетка прадстаўляе ўжо арганізацыйна і гаспадарча ўзмоцненую сыстэму, узяўшую вытворчы напрамак. Белкахотсаюзам падсумаваны вынікі і дасягненьні сыстэмы, дабытыя пад кіраўніцтвам партыі і ўлады. Сучасны пэрыяд характарызуецца адчыненьнем пэрспэктывы для яе далейшага існаваньня і разьвіцьця. Пасьпяхова праходзіць працэс каапэраваньня, пры чым гэта каапэраваньне за 1931 г. дасягнула 15 проц. да агульнага складу сяброў саюзу. У адносіне сацыяльнага складу каапэраваных наша сыстэма зьяўляецца бядняцка-серадняцкай з 30-процантнай праслойкай рабочай клясы. Ад клясава-варожых кулацка-заможных элемэнтаў сыстэма ў асноўным ачысьцілася. Праведзена і праводзіцца каапэраваньне беднаты, калгасьнікаў, паляўнічай моладзі.

Кіраўніцтва і працоўны апарат нашай каапэрацыйнай нізоўкі таксама значна ўзмацніўся.

На мясцох растуць элемэнты каапэрацыйнай грамадзкасьці, павялічваецца колькасьць агульных паляўнічых сходаў у нізоўцы, мацнее паляўнічы каапэрацыйны актыў, пашыраецца самы слабы вучастак нашай працы—культмасавая праца.

Гаспадарчая якасьць працы ўсіх зьвеньняў нашай паляўнічай сыстэмы няўхільна расьце. На 50 проц. раённымі зьвеньнямі сыстэмы ўзят вытворчы напрамак (трусагадоўля).

Значна вырасьлі паказальнікі паянакапленьня і ўкладаньня мэтавых сродак у сыстэме. Два гады таму назад тавараварот сыстэмы выражаўся ў 500.000 руб., а ў 1931 г. таваразварот вырас да 3.000.000 руб., у 1932 г. тавазварот напэўна можна вызначыць і давесьці да 4.000.000 руб., што значна палепшыць таваразабясьпечаньне пайніка.

Удзельная вага нашай каапэрацыйнай сыстэмы па пушнамехзагатоўках значна вырасла і перавышае на 30 проц. мінулы год. Таксама пашыраліся загатоўкі другарадных відаў паляўнічай прадукцыі. У большасьці сваёй раённыя зьвеньні сыстэмы ўжо ўплатную падыйшлі да выкананьня і перавыкананьня загатоўчых плянаў, таксама значна падняўся і ўдзел нашай сыстэмы ў грамадзкіх арганізацыях і т-вах.

Сумесна з тым IX зьезду ўпаўнаважаных неабходна будзе ва ўвесь рост паставіць і завастрыць увагу на слабыя мясцы арганізацыйна-гаспадарчай працы сыстэмы, да ліку якіх патрэбна аднесьці нязначнасьць каапэраваньня беднаты, маючай простае дачыненьне да паляўнічай сыстэмы.

Фонды на гэты конт раённымі зьвеньнямі поўнасьцю ня скарыстаны, мы яшчэ ня маем дастатковага кантролю за выкананьнем працы; пастаноўка вучоту, справаздачнасьці і плянавасьці ў сыстэме далёка не адказвае патрэбам сучаснага пэрыяду; яшчэ далёка ня ўсе раённыя зьвеньні сыстэмы пераключыліся на сацыялістычныя мэтады працы — сацспаборніцтва і ўдарніцтва—і цалкам неперабудавалі яе па новаму.

Не заўсёды і ня поўнасьцю скарыстоўваецца рост актывізацыі паляўнічых мас. Можна прывесьці шмат прыкладаў, калі кіраўнікі раённых зьвеньняў яшчэ плятуцца ў хвасьце мас, а ўся праца ў гэтых зьвеньнях праходзіць самацёкам.

Самым сур'ёзным недахопам у працы сыстэмы зьяўляецца адсутнасьць выкананьня ўзаемаабавязкаў нізавых зьвеньняў з сваім цэнтрам і наадварот.

Паколькі сыстэма Белкахотсаюзу шчыльна падыйшла да практычнага вырашэньня пытаньняў калектыўнага будаўніцтва прамысловай вытворчасьці, неабходна канцэнтрацыя сродкаў, манэўраваньне імі паміж асобнымі зьвеньнямі сыстэмы, даводзячы іх да нормальных узаемаадносін з правядзеньнем гаспадарчай мэтазгоднасьці.

IX зьезду ўпаўнаважаных трэба больш дакладна вызначыць нормы ўзаемаадносін паміж сыстэмай, унесьці большую яснасьць у вызначэньне граніц гаспадарчага звароту і цэнтралізаванага кіраўніцтва, якія давалі-б самую шырокую магчымасьць разьвіцьця ўсіх зьвеньняў сыстэмы, якія яшчэ больш узмацнілі-б сыстэму ў гаспадарча-арганізацыйных узаемаадносінах яе.

Перад Белкахотсаюзам і ўсёй каапэрацыйнай паляўнічай сыстэмай стаяць задачы яшчэ большага пашырэньня вытворчай працы.

Пад кіраўніцтвам партыі і ўлады сыстэма Белкахотсаюзу прыме яшчэ больш ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве гаспадаркі.

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і ўлады паляўнічая сыстэма, **на практыцы ажыцьцяўляючы шэсьць умоў тав. Сталіна**, і надалей будзе праводзіць сваю работу па будаўніцтву сацыялізму ў нашай краіне.

**П. Бабчонак.**

# Пра насьценгазэты ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі

Бадай ці трэба даводзіць зараз той бясспрэчны і кожнаму вядомы факт, што ў сучасны момант наша паляўнічая гаспадарка займае далёка не апошняе месца ў агульным балянсе нашай народнай гаспадаркі. Пры чым, такое значэньне яе з кожным годам усё больш і больш узрастае. Бо прадукты паляваньня (пушніна, напрыклад, і іншыя віды паляўнічага промыслу) адыгрываюць даволі значную ролю ў выкананьні нашых экспартных плянаў і ў забясьпечаньні патрэб унутранага рынку, даючы, такім чынам, вельмі значную карысьць дзяржаве і павялічваючы бюджэт шырокіх паляўнічых мас.

Вось чаму зараз разьвіцьцё і будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі набывае такое актуальнае значэньне і павінна быць цалкам падпарадкавана агульным законам разьвіцьця і будаўніцтва нашай сацыялістычнай гаспадаркі.

Але-ж найбольш эфэктыўнае разьвіцьцё паляўнічай гаспадаркі, якая ў самай існасьці сваёй становіць сабою, коратка кажучы, злучнасьць мерапрыемстваў, накіраваных на максымальнае размнажэньне, захаваньне і найбольш правільная скарыстаньне, у мэтах штогадовага выкананьня плянаў загатовак, паляўнічай прадукцыі, рознага зьвера і птушкі, што зьяўляюцца аб'ектамі паляўнічага промыслу,—такое разьвіцьцё яе ня можа быць выканана бяз удзелу ў ім шырокіх працоўных мас наогул і паляўнічай грамадзкасьці — асабліва. **Яно ня можа быць выканана бяз ужываньня сацыялістычных форм і мэтадаў работы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва, без практычнага ажыцьцяўленьня 6-ці ўмоў тав. Сталіна** (без ліквідацыі абязьлічкі, ураўнілаўкі, правядзеньня зьдзельшчыны, падрыхтоўкі адпаведных кадраў і інш.).

Адным з канкрэтных сродкаў барацьбы за такія мэтады работы, а таксама і мабілізацыі паляўнічых мас на будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, зьяўляюцца, бясспрэчна, нашы насьценныя газэты, як адна з вельмі пашыраных у нас форм бальшавіцкага друку. А таму ўсямернае разьвіцьцё і пашырэньне насьценгазэт зьяўляецца няўхільным абавязкам кожнага раённага т-ва, кожнай нізавой ячэйкі паляўнічых, кожнага паасобнага паляўнічага. Пры чым, важнасьць і адказнасьць разьвіцьця насьценгазэт у сыстэме паляўнічай каапэрацыі павялічваецца тым больш яшчэ ў зьвязку з тым ненармальным, недапушчальным становішчам, што менавіта ў гэтай сыстэме насьценны друк і рабсэлькораўскі рух разьвіты зусім слаба, каб не сказаць, у большасьці выпадкаў—зусім не разьвіты. Бо яшчэ і на сёнешні дзень, калі пытаньне пра неабходнасьць усямернага разьвіцьця насьцендруку і рабселькораўскага руху прынцыпова вырашана і выразна акрэслена ў цэлым радзе пастаноў і ЦК нашай партыі, і ў рэзалюцыях рабселькораўскіх нарад і зьездаў (Усесаюзнай пры „Правде" і 2 Усебеларускага—у ліпені месяцы) у нас, тым ня менш, ёсьць цэлы рад т-ваў (Пухавіцкае, напрыклад, Жлобінскае, Касьцюковіцкае і інш.), якія не выдаюць насьценгазэт нават і пры самых праўленьнях, не гаворачы ўжо пра нізавыя ячэйкі гэтых раёнаў.

Аднак, як бы там ні было, а зараз нам важна падкрэсьліць толькі важнасьць насьценных газэт у справе будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі і каротка пералічыць тыя задачы, што стаяць перад гэтымі газэтамі ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі.

Галоўнай з гэтых задач зьяўляецца, перш за ўсё, барацьба за тэмпы будаўніцтва гаспадаркі, ці інакш кажучы—за мэтады яго, без якіх немагчыма дасягнуць гэтых тэмпаў. А з тае прычыны, што галоўным з гэтых мэтадаў зьяўляецца, як адзначана ўжо вышэй, сацспаборніцтва і ўдарніцтва ўнутры паляўнічай сыстэмы, — задачай кожнай насьцен газэты зьяўляецца ўсямернае асьвятленьне на сваіх старонках дзейнасьці асоб, якія ў сваёй рабоце па сапраўднаму ажыцьцяўляюць сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў розных галінах будаўніцтва. Пры чым, у данай сувязі можа ісьці гутарка пра работу райтаварыстваў цалкам, паасобных працаўнікоў яго ў паасобку, нізавых ячэек і паасобных паляўнічых.

Можа ісьці гутарка і пра работу іншых устаноў і арганізацый, якія спрыяюць і дапамагаюць разьвіцьцю і будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі. У сваю чаргу дзейнасьць пералічаных асоб, а таксама ўстаноў і арганізацый павінна асьвятляцца ў напрамку ацэнкі мерапрыемстваў іх па выкананьні плянаў загатовак, мабілізацыі сродкаў, аховы паляўнічых заказьнікаў і дзяржаўных запрэтнікаў, адстрэлу драпежнікаў, пастаноўкі культмасавай работы і г. д.

Інакш кажучы, насьценгазэта, пры райтаварыстве павінна перш за ўсё паказаць дадатныя моманты ў рабоце праўленьня і паасобных працаўнікоў, накіраваныя на зьнішчэньне безгаспадарчасьці, наладжаньне вучоту і справаздачнасьці, ліквідацыі абязьлічкі і інш.

Пры ўсім гэтым трэба зьвяртаць асаблівую ўвагу на работу і раённых т-ваў і нізавых ячэек у справе высьвятленьня колькаснага становішча ўсіх аб'ектаў паляваньня і тых умоў, у якіх яны жывуць у кожным паасобным раёне. Бо бяз гэтага высьвятленьня і вывучэньня паляўнічай фауны нельга будаваць паляўнічую гаспадарку і падвышаць яе вытворчасьць.

Нарэшце з-пад увагі кожнай газэты ня можа выпасьці і справа будаўніцтва і арганізацыі спэцыяльных паляўнічых гаспадарак (трусагадоўчых, напрыклад).

У гэтым напрамку яна павінна паказаць лепшыя ўзоры работы па абсталяваньні такіх гаспадарак, асабліва трусагадоўчых, паколькі апошнія ёсьць у пераважнай большасьці раёнаў, лепшыя прыклады догляду трусоў, змаганьня за павялічэньне стада, забясьпечаньне трусятнікаў кармамі і г. д.

Усе гэтыя моманты газэта павінна паказаць на сваіх старонках канкрэтна, выразна, падмацоўваючы іх адпаведнымі фактамі і лічбамі.

Але, поруч з задачай асьвятленьня дадатных бакоў будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, кожная насьценгазэта павінна рашуча змагацца і за ўскрыцьце ўсіх тых недахопаў, якія шкодзяць гэтаму будаўніцтву. Яна павінна выкрываць дзейнасьць тых асоб (хто-б яны ня былі), якія сваёй дзейнасьцю затрымоўваюць разьвіцьцё гаспадаркі, зрываюць пляны загатовак, дэзарганізуюць справу і паралізуюць актыўнасьць паляўнічых.

Да гэтага апошняга трэба аднесьці перад усім работу райтаварыстваў у напрамку выкананьня дырэктыў і распараджэньняў вышэйстаячых устаноў і арганізацый наконт правядзеньня чарговых мерапрыемстваў на месцах, зьвязаных з разьвіцьцём паляўнічай гаспадаркі ва ўсіх яе напрамках (арганізацыя і ахова заказьнікаў, трусятнікаў, барацьба з браканьерамі і інш.), наконт ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў, накіраваных на выкананьне плянаў усіх відаў загатовак (кантрактацыя, вытворчае кааперааваньне паляўнічых, арганізацыя калектыўных форм паляваньня—брыгаднага, групавога і г. д.).

Але-ж для таго, каб такія задачы выканаць, насьценгазэта не павінна быць „казённай“, не павінна выдавацца толькі да ўрачыстых сьвятаў і запаўняцца (у сэнсе падбору матар'ялаў) артыкуламі „начальства“, напісанымі пэўнымі асобамі ў парадку т. сказаць „службовых абавязкаў“ (на вялікі жаль, гэта вельмі часта практыкуецца ў шмат якіх т-вах).

Для таго, каб выконваць ролю „калектыўнага прапагандыста і арганізатара шырокіх мас“ на барацьбу за будаўніцтва сацыялістычнай гаспадаркі, кожная насьценгазэта павінна апірацца на ўдзел у ёй шырокіх (у даных выпадку) паляўнічых мас.

Канкрэтней — яна павінна мець сваіх карэспандэнтаў, што вымагае і ад райтаварыства, і ад нізавых ячэек паляўнічых адпаведнай работы ў гэтым кірунку. І яшчэ: для таго, каб насьценгазэта была дзейнай і прыцягвала да ўдзелу ў ёй шырокія паляўнічыя масы, яна не павінна абмяжоўвацца толькі канстатаваньнем у данай сувязі адмоўных фактаў, якое хоць і не выключаецца з задач кожнай газэты, але, тым ня менш, становіць сабою ўсяго адзін бок справы. Бо трэба памятаць, што кожны допіс, зьмешчаны ў газэце, дасягне свае мэты толькі ў тым сэнсе, калі ўказаныя ў ім адмоўныя факты будуць зьнішчаны, а канкрэтныя прапановы праведзены ў жыцьцё.

Толькі ў такім выпадку газэта прынясе карысьць будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі, дасьць стымул удзелу ў ёй паляўнічых мас і менавіта праз гэта зьявіцца сродкам, мабілізуючым гэтыя масы на барацьбу.

Але-ж такая акалічнасьць ставіць вельмі адказную і сур'ёзную задачу перад установай ці арганізацыяй, якія выдаюць даную газэту, перад рэдкалегіяй яе—у першую чаргу. Бо яна абавязвае іх чула рэагаваць на кожны допіс і ўсямерна дамагацца зьнішчэньня зьмешчаных у ім фактаў, калі гэтыя факты адмоўныя, і ўсебаковай папулярызацыі іх і прасоўваньня ў масы, калі яны дадатныя.

Напрыклад, газэта зьмяшчае допіс наконт безгаспадарчасьці, скажам, ці злоўжываньня з боку пэўнай асобы ў даным райтаварыстве.

Задача рэдкалегіі ў зьвязку з гэтым заключаецца ў тым, каб праверыць пасьля зьмяшчэньня допісу, калі ён адпавядае рэчаіснасьці, наколькі зьнішчаны і наогул ці зьнішчаны паказаныя зьявішчы. А пасьля, у залежнасьці ад таго, што становяць сабою гэтыя зьявішчы—вынік памылкі, ці сьвядомае дзеяньне—зьвярнуцца, калі гэта трэба, і ў адпаведныя кантролюючыя органы (РСІ, пракуратура).

З другога боку, у тым выпадку, калі допіс заключае ў сабе апісаньне мэтадаў работы, якія ў канкрэтна данай галіне дзейнасьці таварыства ці ячэйкі прывялі да станоўчых вынікаў, задача газэты (рэдкалегіі яе—у першую чаргу)—паклапаціцца аб тым, каб гэтыя мэтады былі перанесены на ўсе галіны работы, на ўсе ячэйкі, а ў парадку абмену вопытам, і на ўсе т-вы, чаму могуць садзейнічаць ужо раённыя і цэнтральныя газэты, альбо адпаведныя часопісі. Бо толькі пры такіх умовах кожная насьценная газэта можа быць „самай моцнай, самай вострай зброяй партыі“ (Ленін), можа быць „калектыўным арганізатарам мас“ і сродкам барацьбы за выкананьне плянаў будаўніцтва сацыялістычнай паляўнічай гаспадаркі.

**А. С—ка.**

---

**Кожны паляўнічы павінен клапаціцца аб падвышэньні прадукцыйнасьці паляўнічага промыслу, а гэтага можна дасягнуць толькі тады, калі ўся паляўнічая маса будзе клапаціцца аб ахове паляўнічых угодзьдзяў і аб зьнішчэньні на гэтых угодзьдзях драпежнікаў сельскай і паляўнічай гаспадаркі.**

**Паляўнічыя! Арганізуйце брыгады, зьнішчайце ў паляўнічых угодзьдзях каршуноў, бадзячых сабак і катоў.**

# Правільна арганізаваць веснавое паляваньне

З 25 красавіка да 15 мая бягучага году ў БССР дазваляецца паляваньне выключна на вабік на **селязьняў і слонак—на цяге**. У зьвязку з гэтым, перад райтаварыствамі, нізавымі ячэйкамі і паасобнымі паляўнічымі стаяць задачы як мага больш правільна арганізаваць і правесьці яго. Інакш кажучы, паляўнічыя арганізацыі і грамадзкасьць перш за ўсё павінны сачыць за тым, каб паляваньне ўтваралася толькі ў паказаны тэрмін, на паказаныя аб'екты і захаваньнем наступных правілаў: **паляваньне на селязьнёў утвараць выключна з манком, на слонак—выключна на цяге**. А гэта значыць, што паляваньне на іншыя аб'екты і з сабакамі будзе разглядацца **як злачынства** і павінна ўсямерна забараняцца. Для таго, каб дасягнуць гэтага, райтаварыствам і нізавым ячэйкам трэба зараз-жа разгарнуць шырокую растлумачальную работу сярод паляўнічых мас, трэба дамагчыся таго, каб свой паляўнічы „соблазн“ кожны, утвараючы паляваньне, стрымліваў-бы выходзячы з меркаваньняў захаваньня забароненых да адстрэлу аб'ектаў паляваньня на далейшае і ня зьнішчаў-бы бяз часу і бескарысна гэтых аб'ектаў як пры дапамозе стрэльбы, так і сабакі. Гэта-ж апошняе мяркуе бязьлітасную барацьбу як з браканьерамі ўсіх відаў, так і з бадзячымі сабакамі і іншымі шкоднікамі і драпежнікамі.

Другім важным момантам, з правядзеньнем веснавога паляваньня зьвязаным, павінна зьяўляцца шырока разгорнутая работа сярод паляўнічых мас, накіраваная на выкананьне заданьняў па загатоўцы бітай птушкі (мяса) і пухпяра. Пры гэтым таксама неабходна растлумачыць кожнаму паляўнічаму прынцыповае значэньне справы загатовак для дзяржавы. Апроч гэтага, райтаварыствам і ячэйкам неабходна і арганізацыйна забясьпечыць магчымасьць выкананьня вызначаных для кожнага раёну плянаў. Гэта значыць райтаварыствам неабходна зараз-жа давесьці пляны да ячэйкі і паляўнічага, а таксама прасачыць і за тым, каб яны выконваліся. Для гэтай мэты неабходна шырока скарыстаць сацспаборніцтва і ўдарніцтва як паміж ячэйкамі і паасобнымі паляўнічымі ўнутры данага раёну, так і паміж раёнамі ў больш шырокім маштабе. Бо трэба памятаць, што загатоўкі ў час веснавога паляваньня неабходна правесьці пад лёзунгам: ня менш аднаго кілёграму мяса дзічыны павінен даць кожны паляўнічы. **С.**

# Паляўнічы сэзон у Рагачэўскім раёне

Веснавое паляваньне 1931 году ў Рагачэўскім раёне пачалося разьлівам полай вады. З-за адсутнасьці „грыў“, з прычыны вялікіх паводак, качкі трымаліся пераважна ў лясох і ў лясных балотах, а па разьліву іх было вельмі мала. Пасьля таго, як паводка зьменшылася, адкрыліся сухія мясцы на лугу (грывы), скончыўся тэрмін. Веснавое паляваньне на качароў у мінулым сэзоне было нездабычлівае. Здавалася-б, пагэтаму, што асеньні сэзон паляваньня на качак па вывадках дапоўніць прабел вясны, але і ўвосень качак было вельмі мала наогул, а крыжакоў у асаблівасьці і таму адстрэл іх быў таксама нязначны. Што-ж датычыцца восеньскага пералёту гэтай птушкі, дык можна лічыць, што яго зусім ня было: дзе-ні-дзе можна была ўбачыць аднаго двох чыркоў, пралятаючых вечарам каля якога-небудзь балота.

Паляваньне на зайцаў было лепшае. І восень і зіма спрыялі гэтаму паляваньню. Праўда, ня было частых і вялікіх адлег, апрача 2—3 выпадкаў, і паляваць з ганчакамі было ня так спадручна, але затое „вытаптываць“ іх і „трапіць“ было добра, з прычыны няглыбокага сьнегу на працягу ўсёй зімы.

На 1 студзеня 1932 г. у краму паляўнічых па Рагачэўскім раёне здадзена паляўнічымі пушніны на 3183 руб., мехсыравіны—на 466 р. Закантрактавана пушніны на 422 р. і мехсыравіны на 427 рублёў. Шкода, што праўленьне саюзу не вядзе вучоту ў такім напрамку, каб было відаць, колькі здадзена і на якую суму ў паасобку кожнага зьвера. Гэта садзейнічала-б біовучоту зьвера па нашым раёне і дава-б магчымасьць ужыць своечасова адпаведныя меры ў сэнсе аховы той ці іншай дзічыны.

За час з 1 студзеня па 1-е красавіка 1932 г. здадзена пушніны на 1033 р. 22 кап., мехсыравіны 218 сабак на 380 руб. 19 кап., мяса бітай дзічы 514 *клг* (пераважна зайцы і ў тым ліку 58 *клг* цецярукаў), усяго на 488 руб., мяса трусоў здадзена 62 *кг* на 62 руб., пухпяра і лекавых траў ня здадзена ніводнага кілё. Дагавароў па пушніне заключана 55 на 856 р. 20 к. Абавязацельстваў на мехсыравіне 62 на 1193 р. 80 к.

На 685 сяброў саюзу колькасьць гэта, зразумела, зьяўляецца нязначнай і працу іх у гэтым напрамку ні ў якім разе прызнаць ударнай ня можна. У адносіне мехсыравіны здарылася маленькая недарэчнасьць: калі гарадзкая ячэйка паляўнічых абмеркавала неабходнасьць адстрэлу бадзячых сабак і, дапрызначыўшы для гэтага час, зьвярнулася за дазволам у міліцыю, дык начальнік міліцыі, лічачы, напэўна, гэта мерапрыемства непатрэбным, а мо' і шкодным, не дазволіў адстрэл, такім чынам бадзячыя сабакі засталіся ў горадзе, а з гэтае прычыны зьменшыліся мехзагатоўкі, калі ўжо ня прымаць пад увагу таго, што бадзячыя сабакі разносяць шаленства і іншыя меркаваньні. Неабходна высьветліць на будучы час, у чый абавязак уваходзіць зьнішчэньне бадзячых сабак у горадзе.

Гарадзкая ячэйка паляўнічых налічвае 115 сяброў. Уся іх дзейнасьць і адносіны да паляўнічай гаспадаркі абмяжоўваюцца тым, каб не спазьніцца на паляваньне на зайцаў і качак і каб як мага больш іх зьнішчыць, уключаючы сюды і так званых іх паўзуноў. Што датычыцца іншай дзейнасьці нашай

ячэйкі, трэба адзначыць, што сябры яе не зьяўляюцца на нарады па тры разы падрад. Работы ніякай не вядзецца. Зацікаўленасьці пытаньнямі будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі ў паляўнічых няма. Тлумачыцца гэта тым, што няма добрага працаўніка, які праявіў-бы ініцыятыву і наладзіў працу ячэйкі.

Пры праўленьні саюзу паляўнічых неабходна было-б адчыніць сэктар рыбалоўства і рыбаводзтва, бо Рагачоў стаіць на двох рэчках—Друці і Дняпры і насельніцтва горада і прылягаючых да гэтых рэчак вёсак займаецца рыбалоўствам. Рыбная гаспадарка на гэтых рэчках вядзецца самым драпежніцкім, не гаспадарскім спосабам. Ёй амаль ніхто ня цікавіцца, абы толькі злавіць рыбы.

**Ш—ль.**

# ГЛУШЭЦ

(*Працяг*) *)

### Ток

Ток глушца адбываецца на махавым балоце з густым старым сасоньнікам, які мяжуецца з вялізарным страявым лесам, або на такім балоце, якое акаляе такі лес. Глушэц з года ў год такуе на адным і тым-жа месцы, таму зусім непатрэбна шукаць ток, калі вядома, дзе глушэц такаваў у мінулым годзе.

Па часе сутак, ток пачынаецца раніцой, з першым, ледзь прыкметным, пасьвятленьнем. Па часе году—у сакавіку, у некаторых мясцох, пры раньняй вясьне, нават у лютым. Такуе глушэц звычайна на дрэве (сасонцы) на першых сукох з нізу.

Сьпяваючы, глушэц сядзіць зусім ціха, нярухома. І толькі, калі расьсьвітае і прыляцяць глухаркі, пачне рухацца ды і то пасьля сканчэньня песьні. Пасьля некалькіх песень падрад часамі пераменяецца з нагі нагу і прыслухоўваецца. Упэўніўшыся, што яму нічога не пагражае, пачынае зноў з гука „тэк-хэ", спачатку вельмі рэдка, потым часьцей і часьцей і, урэшце, перарывы між асобнымі гукамі зьліваюцца ў адзін.

Песьню глушца пазнаць лёгка па глухасьці гука і чуваць яна недалёка. Пры добрым надвор'і можна пачуць асобныя адрыўкі такаваньня крокаў на 150—200.

### Штучнае разьвядзеньне глушца

Колькаснае памяншэньне глушца з кожным годам на нашых паляўнічых угодзьдзях ня мала трывожыць нашага паляўнічага і турбуе яго, як-бы захаваць гэтую птушку, павялічыць яе колькасьць?

Глушэц—птушка малапладлівая. Нават, калі глушэц ня гіне па прычынах, якія былі паказаны ў першым артыкуле, дык і то для яго памнажэньня неабходна шмат часу. Глушэц гіне яшчэ і па незалежачых ад чалавека прычынах. З гэтага відаць, што мы павінны падыходзіць да вырашэньня глушцовай праблемы практычным шляхам. Гэты шлях, памойму,—штучнае разьвядзеньне глушца, незалежна ад тых мер, якія будуць прыняты для яго памнажэньня на волі. Здаецца, што яшчэ нідзе не ўтвараліся вопыты па разьвядзеньні глушцоў.

Але мы ведаем найлепшыя вынікі па разьвядзеньні фазана. Можна разводзіць і цецярукоў. Добра разводзіцца шэрая курапатка. Нават белая курапатка ў вялікай колькасьці разьвялася ў Бэльгіі, якая была вывезена з Расіі год 40 назад.

Прыглядаючыся да жыцьця глушца ў Маскоўскім зоапарку, дзе глушэц, як відаць, адчувае сябе добра ў грамадзе цецярукоў, шэрай і белай курапаткі, прыходзім да заключэньня, што птушка гэтая можа жыць у няволі, як і іншыя пароды курыных.

Можа ўзьнікнуць пытаньне, дзе і як дастаць яйкі, наседку і г. д.

Прамысловыя паўночныя раёны СССР дастаткова багаты гэтай птушкай, бязумоўна могуць даць яйкі глушцоў. Індычка дасьць наседку. Глушэц—птушка, як вядома, непераборлівая ў ядзе, асабліва ў зімовы пэрыяд. У няволі (ды і на волі) любіць зерні аўса. Значыць, у сэнсе харчаваньня глушэц клопатаў ня дасьць.

Клопаты аб захаваньні і павялічэньні колькасьці глушца ў нас павінны класьціся, галоўным чынам, на нашу паляўнічую каапэрацыю і трэба спадзявацца, што ёй будуць утвораны вопыты па разьвядзеньні глушцоў.

**Ф. А. Лялін.**

*) Гл. „П. Б." № 3 1932 г.





# Папярэднія даныя па пытаньню аб размнажэньні і разьмяшчэньні бабра ў Беларускім Дзяржаўным Паляўнічым Запаведніку

Гэтыя даныя размнажэньня і разьмяшчаньня бабра ў Беларускім Дзяржаўным Паляўнічым Запаведніку будуць належаць да пэрыяду 1924—1-І—1932 году. Якіх-небудзь даных пра колькасьць і месца жыцьця бабра на сучаснай тэрыторыі запаведніку да гэтага часу няма. Першы вучот бабра быў утворан у канцы 1924 году. Гэты вучот утвараўся спэцыялістамі па знойдзеных імі бабровых хатах (замках), карчох, дапасованых бабрамі для жыцьця, пры абсьледваньні берагоў ракі Бярэзіны, дробных глухіх рэчак, вазёр і штучна выкапаных асушальных і сплаўных каналаў.

Пры першым уліку, утвораным у канцы 1924 г., было знойдзена: бабровых хат 21 і нор—1.

Па даных апошняга ўліку—у лістападзе і сьнежні 1931 г., знойдзена: бабровых хат са сьвежымі запасамі кармоў на зіму—47 і старых хат, бяз сьвежых запасаў—14. Норы, з прычыны няспрыяючага надвор'я ў час уліку, а таксама і па прычыне несьдомасьці дасьледчыкаў у большасьці новых працаўнікоў, засталіся нявыяўленымі.

Даныя гэтых двух улікаў паказваюць, што за 7 гадоў—з канца 1924 г. і па 1-І—32 г., нават пры ўмове, калі ўся дзейнасьць служачых запаведніка ў дачыненьні да паляўнічай гаспадаркі зводзілася выключна да звычайнай (прымітыўнай) аховы маючыхся ў запаведніку дзікіх зьвяроў (у тым ліку і бабра), без правядзеньня якіх колечы навукова-гаспадарчых мерапрыемстваў,—нават і пры гэтай умове лік бабровых хат, а значыць і сямей, павялічыўся амаль у тры разы. Гэта паказвае на жыцьцяздольнасьць і пладавітасьць бабра.

Наконт гэтага ў літаратуры знаходзім наступныя ўказаньні: „Калі ў мясцох свайго жыцьця бобр карыстаецца сур'ёзнай абаронай галоўным чынам ад драпежніцкага яго зьнішчэньня, ён заўсёды выяўляе тэндэнцыю да прагрэсыўнага павялічэньня, паказваючы сябе сталым і жыцьцяздольным відам“. Як яскравы прыклад, прыводзіцца наступнае: „У Нарвэгіі ў 80-х гадох мінулага стагодзьдзя бобр налічваўся дзесяткамі экзэмпляраў. Але калі нарвэскі ўрад прыняў захады наконт яго аховы, бобр стаў шпаркім тэмпам размнажацца і пранік у раней пакінутыя ім месцы. Да гэтага часу гэты вельмі каштоўны грызун дасягнуў там колькасьці 12—14 тысяч“.

Указаць дакладныя даныя аб разьмяшчэньні бабра на тэрыторыі запаведніка за ўказаны пэрыяд часу мы ня маем магчымасьці. Бо да 1932 г. сталай інвэнтарызацыі бабровых хат па ўрочышчах і вадаёмах зроблена ня было, а таксама ня былі ўдасканалены і назвы урочышч. З гэтае прычыны мне прышлося карыстацца толькі тымі данымі, якія атрыманы пры абсьледваньні бабровых хат у лістападзе і сьнежні 1931 г. Пры чым, абсьледваньне выясьніла, што ў тых мясцох, дзе бабра турбавалі людзі пры лесасплаве на рэках, а таксама і пры частай рыбнай лоўлі, пры касьбе травы паблізу бабровых жылішчаў, бобр часта пакідаў свае сталыя месцы і пераходзіў у глухія рэчкі, вазёры і нават у вузкія, малаводныя і штучна выкапаныя канавы, ня лічачыся нават в тым, што ў гэтых глухіх, вузкіх малаводных канавах, з пастаянна мяняючымся ўзроўнем вады, яму трэба было, апрача пабудовы хат, копкі нор і патайных хадоў,—будаваць яшчэ і цэлую сэрыю спэцыяльных плацін выключна для рэгуляваньня вады ў канаве.

Азначаныя перасяленьні замечаны на канаве № 1 штучна выкапанай для лесасплаву, а таксама і на канаве ва ўрочышчы „Барсукі“, таксама штучна выкапанай для асушкі мясцовасьці.

Як у першым, так і ў другім выпадках, апрача пабудовы там хат, выкапаных нор і патайных хадоў ёсьць спэцыяльна зробленыя бабром для рэгуляваньня вады ў гэтых канавах плаціны па 5 штук пры кожнай хаце, з якіх па адной плаціне зьверху хаты і па чатыры зьнізу.

Зусім відавочна, што апрача перашкоджваньня ў жыцьці бабра з боку чалавека, што, на маю думку, зьяўляецца заўсёды галоўнай прычынай пакіданьня ім свайго месца жыцьця, бобр перасяляецца на новыя месцы часам і па прычыне недахопаў кармоў, альбо цяжкасьцяй пры пабудове патайных ходаў на шляху жыровак, адсутнасьці добрага хмызьняку альбо лесу на мясцох жыровак, неадпаведнасьці зьмяніўшагася глебавага пакрову, што ўскладняе яму прасоўваньне і г. д. Але ў большасьці галоўнай з гэтых прычын часта зьяўляецца дзейнасьць таго-ж галоўнага ворага бабра—чалавека. Некаторыя з указаных прычын мелі месца на глухім возеры „Асінка“, дзе з быўшых у 1925 г. 6 бабровых хат зараз засталося толькі дзьве, з якіх адна з запасам кармоў і другая бяз усякіх запасаў.

Гісторыя з „Асінкай“ паказвае, што для забясьпечаньня жыцьця бабра і пасьпяховага яго размнажэньня адной звычайнай аховы яго месцазнаходжаньня бывае зусім недастаткова і таму робіцца відавочнай неабходнасьць праводзіць цэлы рад мерапры-



На прывале.

емстваў у напрамку палепшаньня прыродных умоў разьвядзеньня бабра.

Такім чынам трэба прысьці да таго заключэньня, што павялічэньне, якое атрымалася ў некаторых выпадках у засяленьні бабром глухіх вадаёмаў у запаведніку, адбылося ня толькі ў выніку аднаго размнажэньня бабра за паказаны пэрыяд часу, часткова і ў выніку перамяшчэньня яго з берагоў ракі Бярэзіны, дзе бабра кожны час непакоілі сплавам лесу, лоўляй рыбы, сенакашэньнем паблізу каля хат.

Гэта перамяшчэньне бабра дае нам падставу сьцьвярджаць, што ў тым выпадку, калі і пры глухіх вадаёмах (малых рэчках, вазёрах і канавах), якімі запаведнік вельмі багат, будуць створаны для бабра спрыяючыя жыцьцёвыя ўмовы, бобр зьявіцца і ў гэтых мясцох. Акрамя таго перасяленьне бабра ў розных напрамках і ў розныя вадаёмы дасьць магчымасьць групаваць бабровыя калёніі, а гэта ў сваю чаргу зробіць больш зручным правядзеньне навуковых назіраньняў і дасьледваньняў. а таксама дазволіць з найменшымі стратамі і больш таннымі сродкамі праводзіць усе неабходныя мерапрыемствы па палепшаньні бабровай гаспадаркі запаведнікаў.

Усе вышэйпададзеныя даныя па пытаньні разьмяшчэньня бабра ў запаведніку, атрыманыя ў выніку поўных назіраньняў шляхам утварэньня дасьледваньня бабровых хат, патрабуе праверкі і поўнага ўдасканаленьня шляхам утварэньня адпаведных дасьледчых работ, якія і мяркуецца правесьці летам 1932 г.

Для больш падрабязнага вывучэньня біалёгіі баброў, у запаведніку апрача сталай інвэнтарызацыі бабровых хат, карчоў, дапасаваных бабрамі для жыцьця, пэрыядычнага іх абсьледваньня па спэцыяльна складзеных праграмах з мэтаю атрыманьня магчыма поўнага сыстэматызаваньня біалёгічнага матар'ялу, па ініцыятыве БАН мяркуецца ў 1932 г. арганізаваць у запаведніку бабровы гадавальнік у натуральных прыродных умовах. Гэты гадавальнік дасьць магчымасьць праводзіць у ім больш сталае назіраньне за жыцьцём бабра і сваячасова выкарыстоўваць атрыманыя карысныя веды для лепшай пастаноўкі справы па разьвядзеньні бабра нагогул у запаведніку.

Амэрыка, даўно ўжо ўлічыла значэньне бабра, як вельмі каштоўнага пушнога зьвера, і зараз там ня спыняюцца перад вялікімі грашовымі затратамі на ахову, акліматызацыю і рэакліматызацыю бабра з мэтай павялічэньня яго колькасьці і распаўсюджанасьці.

Пры правільнай навуковай пастаноўцы бабровай гаспадаркі ў запаведніку, можна з упэўненасьцю сказаць, што і Беларускі Дзяржаўны Паляўнічы Запаведнік цалкам апраўдае сваё прызначэньне і ролю навукова-дасьледчай установы—базы бабра. Больш навуковага кіраўніцтва, шырэй гаспадарчы размах у справе патрэбнай пастаноўкі паляўнічай гаспадаркі ў запаведніку!

**Віткоўскі.**

# Воўк забіты камнем

21 сакавіка гэтага году гр. Матус Кастусь даставіў у Менскае гарадзкое т-ва забітага воўка і заявіў, што ён яго забіў камнем. Як довад да гэтага, Матус падаў даведку Голадзкага сельсавету, Пухавіцкага раёну наступнага зьместу.

„Дадзена гэта ад Голадзкага с.-с. дзесятніку 9-га Доркіраўніцтва т. Матусу Кастусю Макаравічу ў тым, што ён сапраўды забіў ваўчыцу на тэрыторыі Голадзкага с.-с. на дарожнай лініі.

21 сакавіка г. г. у 10 гадзін раніцы т. Матус, ідучы па лініі, заўважыў бегшую насустрач яму ваўчыцу, але Матус, ня маючы нічога ў руках, падняў з лініі камень і ўдарыў ваўчыцу ў лоб, пасьля чаго яна павалілася і там на месцы ім была дабіта.

Даведка гэта выдадзена ў Менскі саюз паляўнічых для прэміраваньня, што і сьведчыцца. Пячатка с.-с. і подпісы“.

Пасьля ўскрыцьця гэтай ваўчыцы праф. БДУ Фядзюшыным словы гр. Матуса пацьвердзіліся тым фактам, што ў ваўчыцы быў разьбіты толькі чэрап галавы і пераломлена адна нага нейкім тупым аружжам. Якіх-небудзь іншых адзнак, якія гаварылі-б за тое, што ваўчыца была змучаная голадам, параненая ці хворая, ня знойдзена. Наадварот, гэта быў сыты, здаровы экземпляр ваўка. Зараз робіцца аналіз, ці ня была ваўчыца шалёнай.



Сартыроўка рысі (Пушбава).

# Пэрспэктывы разьвіцьця рыбаводцае прудавое гаспадаркі ў БССР

У Беларусі ёсьць магчымасьці для пасьпяховага разьвіцьця рыбнай прудавой гаспадаркі. Адным з момантаў, якi забясьпечвае разьвіцьцё гэтай гаспадаркі, гэта наяўнасьць дастатковай плошчы вадаёмаў, дзе можна было-б распачаць будаўніцтва прудавых гаспадарак.

Балотная плошча, якой у БССР налічваецца звыш 2.500 тысяч *га*, упаўне забясьпечвае разгортваньне магутнай прудавой гаспадаркі ў БССР.

Другой неабходнай умовай для разьвіцьця рыбаводзтва зьяўляецца наяўнасьць крыніц вадаснабжэньня для заліва прудавой плошчы вадою. Гэты досыць сур'ёзны момант таксама забясьпечваецца густой сеткай каналаў і рэчак, якія ёсьць на тэрыторыі БССР.

Кантрольныя лічбы другой пяцігодкі прадугледжваюць будаўніцтва 120.000 гектар прудавых гаспадарак, што паставіць рыбаводзтва ў адзін з відаў сельска-гаспадарчага скарыстоўваньня зямельных плошчаў. Эфэктыўнасьць скарыстаньня балотнай плошчы пад прудавыя гаспадаркі, у параўнаньні з лугавой гаспадаркай, характарызуецца наступнымі лічбамі *).

| Катэгорыя гаспадарак | Капітала-укладаньні ў руб. на 1 га | Валавы даход з 1 га | Штогодн. выдаткі па эксплёат. на 1 га | Чысты прыбытак |
|---|---|---|---|---|
| Лугавая гаспадарка . . . . | 335 | 195 | 135 | 60 |
| Прудавая „ . . . . | 500 | 256 | 110 | 146 |

Такім чынам, з гэтай табліцы відаць, што прудавая гаспадарка дае ў два з лішкам разы больш прыбытку, чым лугавая гаспадарка, якая зьяўляецца адзіным прэтэндэнтам на балотныя масывы.

Акрамя таго пры скарыстаньні плошчы пад прудавыя гаспадаркі, атрымліваецца прадукт—рыба, які ва ўмовах мясцовага скарыстаньня ў сьвежым выглядзе замяняе сабою мяса.

Па кантрольных лічбах другой пяцігодкі рыбнай гаспадаркі БССР, спажываньне рыбы на адну душу насельніцтва БССР павялічваецца з 3,5 *кгр* у 1932 годзе да 12,5 *кгр* у 1937 г.

Вось як павялічваецца, па намётках кантрольных лічбаў другой пяцігодкі, спажываньне рыбы па гадох:

| | |
|---|---|
| 1932 г. прыпадае на адну душу . . . | 3,5 *кгр* |
| 1933 г. „ „ . . . | 4,5 „ |
| 1934 г. „ „ . . . | 5,5 „ |
| 1935 г. „ „ . . . | 9,5 „ |
| 1936 г. „ „ . . . | 11,0 „ |
| 1937 г. „ „ . . . | 12,5 „ |

Лугавая плошча рыб. гаспад. будзе ўзрастаць на працягу другой пяцігодкі з году ў год наступным чынам.

**Новае будаўніцтва**

| Катэгорыя гаспадарак | Магутнасьць у натуры (плошча ў гект.) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1932 | 1933 | 1934 | 1935 | 1936 | 1937 |
| 1. Карпавыя пруд-гаспадаркі . . | 4.200 | 5.000 | 15.000 | 30.000 | 50.000 | 75.000 |
| 2. Фарэлевыя пруд-гаспадаркі . . | — | 100 | 250 | 500 | 750 | 1.000 |
| 3. Азерныя гаспадаркі. . . . | 5.000 | 10.000 | 15.000 | 20.000 | 25.000 | 30.000 |

Увага. Усе лічбы датычаць гаспадаркі, якая знаходзіцца ў веданьні Белрыбтрэсту.

Акрамя новага будаўніцтва будзе перабудована існуючая прудавая гаспадарка. Плошча існуючых гаспадарак будзе пашырана ў два разы з 1.068 *га* ў 1932 г. да 2.054 *га* ў 1937 годзе.

У такіх памерах будзе ўзрастаць, пашырацца прудавая гаспадарка БССР на працягу другой пяцігодкі.

У сувязі з ростам прудавой плошчы, паўстае пытаньне аб палепшаньні якасьці эксплёатацыі прудоў і догляду за прудамі.

Такое становішча догляду за прудамі, як у час зімаваньня, так і ў час нагулу (летам), якое было да гэтага часу, далей нецярпіма. У мінулым мы мелі такія факты, калі адыход сегалеткі ў час зімаваньня дасягаў да 100 проц., пры магчымым адыходзе, пры правільным вядзеньні гаспадаркі, максымум 40 проц.

Гаспадарка „Чырвоная зорка" мела адыход у 1930 годзе 58 проц., у 1931 г. адыход дасягнуў 100 проц. Белае возера ў 1931 г. мела выхад 84,5 проц., Наўліца ў 1931 г. мела 100 проц. Ня лепш справа абстаіць і з адыходам у час нагулу. Наступная табліца характарызуе становішча з адыходам у час нагулу таварнага карпа.

| Назва гаспадарак | 1930 год | | | 1931 год | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пасаджана на нагул штук | Вылаўлена штук | %% адыходу | Пасаджана на нагул штук | Вылаўлена штук | %% адыходу |
| „Чырв. зорка" . | 99.218 | 64.858 | 34,7 | — | — | — |
| Белае возера . . | 102.380 | 74.518 | 27 | 42.830 | 18.474 | 57 |
| Сьляпянка . . . | „ | — | — | 13.900 | 11.150 | 19,8 |

Процант адыходу ў паасобных гаспадарках хістаецца ад 19 да 57, пры дапускаемых максымальна—20—25 проц.

*) Лічбы ўзяты з матар'ялаў кантрольных лічбаў да другой пяцігодкі Белрыбтрэсту.

## Беларускі дзяржаўны паляўнічы запаведнік у дрэнным становішчы

На тэрыторыі Барысаўскага, Лепельскага і Бягомльскага раёнаў знаходзіцца Беларускі дзяржаўны запаведнік плошчай у 72.090 *га.* Лес у запаведніку складаецца, галоўным чынам, з маладых дрэў, што вельмі спрыяе выплоджваньню дзічыны. У гэтым годзе ўтворан агульны падлік паляўнічай фауны запаведніку, якая складаецца наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| мядзьведзяў | — 44 шт. | вайцоў (шарак) | — 500 шт. |
| ваўкоў | — 60 „ | „ (бяляк) | — 600 „ |
| лісіц | —200 „ | бабровых хат | — 46 „ |
| рысяў | — 26 „ | лосяў | — 90 „ |
| барсукоў | — 50 „ | коз дзікіх | — 100 „ |
| куніц | —380 „ | сьвіней дзікіх | — 8 „ |
| тхароў | —250 „ | глушцоў | — 830 „ |
| гарнастаяў | —320 „ | цецярукоў | —2000 „ |
| норак | —110 „ | рабцоў | —1600 „ |
| выдраў | —250 „ | курапатак бел. | — 200 „ |
| вавёрак | —550 „ | „ шэр. | — 80 „ |

Зразумела, што гэтыя лічбы ня зусім дакладныя і могуць хістацца ў бок паменшаньня ці павялічаньня. Але ўсё ж такі трэба сказаць, што, прымаючы пад увагу вельмі спрыяючыя прыродныя ўмовы запаведніка, яго тэрыторыю і інш., фауна запаведніка колькасна (не па сваіх відовых адзнаках) небагатая. Можна было б чакаць куды больш вынікаў ад запаведніка.

Што-ж рабіла ўплыў на такое малое павялічэньне фауны?

Перш-на-перш гэта тое, што працаўнікі мясцовых органаў улады Бягомльскага раёну зусім не разумеюць задач запаведніка, як рассадніка дзічы, дзе знаходзяць сабе месца жыцьця ўсе прадстаўнікі паляўнічае фауны Беларусі. Калі адміністрацыя запаведніка зьвярнулася ў Бягомльскі РВК аб перасяленьні хутароў з тэрыторыі, якая належыць запаведніку, згодна пастановы СНК ад 30-І 1925 г., дык загадчык земчасткі Бягомльскага РВК знайшоў патрэбным запытацца ў СНК, ці пацьвярджае ён сваю пастанову.

Вельмі кепска адносяцца да запаведніка і сельсаветы Бягомльскага раёну і іншыя арганізацыі. Ды інакш і ня можа быць, калі вышэйшыя ўстановы раёну (РВК) не разумеюць задач запаведніка.

Прыблізна ў лютым 1931 году на агульным сходзе калгасьнікаў калгасу „Максім Горкі“, сакратар Дамжарыцкай партячэйкі гр. **Гарбацэвіч** пытаецца ў нам. загадчыка запаведніка **т. Тарасэвіча: ці лічыць ён запаведнік шкодным для рэспублікі гаспадаркай.**

Так думаюць адносна існаваньня паляўнічага запаведніка і іншыя работнікі Бягомльскага раёну. А гэта самае падрывае ня толькі значэньне запаведніка для паляўнічай гаспадаркі ў сэнсе памнажэньня паляўнічай фауны, але і дысцыпліну служачых, з прычыны чаго вельмі цяжка наладзіць належную ахову запаведніка, разьвіваецца браканьерства, забіваюцца каштоўныя зьвяры.

Так, напрыклад, былі выпадкі забойства лосяў і нават баброў.

Але ўсім галавацяпам пабіў рэкорд старшыня Дамжарыцкага сельсавету гр. **Бяльковіч** і сакратар гэтага-ж сельсавету **Шымко.** Яны ўласнымі рукамі павырывалі межавыя слупы запаведніку ў Бярэзіна-Ліпскай дачы і далі загад калгасам „Максім Горкі“ і „Першае мая“ касіць сенажаці запаведніка, не прызнаючы ніякіх меж. У запаведніку самавольна секлі лес, пасьвілі скот. Хаця і складаліся протаколы, але яны ішлі, вядома, па інстанцыі і далей сельсавету ня рушыліся.

Такое зьявішча наглядаецца ва ўсіх сельсаветах **Бягомльскага раёну.** Судовыя-ж органы таксама ня лічацца з існаваньнем законаў і палажэньняў аб паляўнічай гаспадарцы і браканьеры, парушыцелі гэтых законаў, часьцяком судамі апраўдваюцца.

Такім чынам, стварылася становішча, якое зусім не садзейнічае разьвіцьцю запаведніка і абагачэньню яго паляўнічай фаунай. Нам здаецца належным органам неабходна тэрмінсва стварыць камісію, узьняць грамадзкую думку вакол запаведніка, абсьледваць яго, выявіць усе перашкоды, якія пазбаўляюць магчымасьці разьвіцьцю запаведніка і паставіць гэтае пытаньне перад належнымі вышэйшымі органамі ўлады. Апрача таго, неабходна даць дырэктыву органам улады на мясцох, каб яны ня толькі не парушалі інтарэсаў запаведніка, але і абаранялі яго. Не зрабіўшы гэтага, няма магчымасьці будаваць і разьвіваць паляўнічую гаспадарку.

**Жанеўскі.**

---

## Пэрспэктывы разьвіцьця рыбаводнае прудавое гаспадаркі ў БССР (канец)

Такое становішча ў далейшым не дапусьціма. Барацьба за зьніжэньне проц. адыходу як у час зімаваньня, так і ў час нагулу зьяўляецца першачарговай задачай гаспадарнікаў і спэцыялістаў прудавой гаспадаркі. Дзякуючы няўмеламу дагляду за рыбай у час пасадкі (пабоі рыбы, аховы зімавальнікаў, захаваньня нармальнага рэжыму вады) рыбная гаспадарка атрымлівае толькі палову прадукцыі карпа, а іншы раз і зусім нічога.

Па пляну на 1932 год прадугледжана пасадзіць на нераст 453 гнязды вытворцаў і вырасьціць 1.560 цэнтнераў сегалеткі, што зьяўляецца паўфабрыкатам для атрыманьня ў 1933 годзе таварнага карпа; плянам прадугледжана вырасьціць 703 цэнтнеры, выходзячы з таго пасадачнага матар'ялу, як ёсьць у зімавальніках. Плянам прадугледжан таксама максымальны адыход у час зімаваньня—40 проц. і нагулу—20 проц.

Гаспадарнікам і спэцыялістам прудавой гаспадаркі трэба змагацца, каб гэты процант ні ў якім разе ня быў перавышан, зьвярнуўшы максымум увагі аблову, зімавальнікам, пасадцы на нагул і нераст, пільным доглядам за прудамі, пераводзячы паасобныя зьвеньні працы на гаспадарчы разрахунак—задачы, пастаўленыя перад прудавой гаспадаркай у 1932 годзе, будуць выкананы.

**П—ка.**

## Ударыць па душыцелях самакрытыкі! Выкарчаваць апартунізм!

У 2-м нумары 1932 г. часоп. „Паляўнічы Беларусі“ Лельчыцкі раён занесен на чорную дошку за невыкананьне плянаў пушнамехавых загатовак у першым квартале бягучага году. Гэты факт кранаецца, бясспрэчна, кожнага паляўнічага. Але-ж далёка ня ўсе паляўнічыя вінаваты ў гэтым. Бо нават лепшыя з іх у сваіх дзеяньнях паралізуюцца паводзінамі праўленьня райтаварыства ў асобе загадчыка паляўнічай крамы **Штукара, які вельмі не паважае самакрытыкі.** Бо на розныя намаганьні з боку паляўнічых, якія кранаюцца палепшаньня работы т-ва, якая пастаўлена з рук вон дрэнна, Штукар крычыць: **„маўчы ў мяне, а не, дык я цябе накрыю!“** Так адказаў ён і пішучаму гэтыя радкі, калі апошні запытаўся ў яго, чаму ў нашым т-ве ня ўжываецца зусім контрактацыя, не даведзены да ячэек і паляўнічых пляны загатовак, не праводзіцца ніякай культмасавай работы, зажымаецца самакрытыка.

А між тым **Штукар** зьяўляецца адзіным працаўніком у т-ве: ён і загадчык крамы, ён і сакратар, хоць за сродкі т-ва і ўтрымоўваецца „штатны“ сакратар, які калі можа і робіць што-колечы дзенебудзь, але ва ўсякім разе не ў т-ве. Бо ніхто нідзе і ніколі яго ня бачыў на працы.

Мы ня ведаем, што робіць старшыня праўленьня і наогул праўленьне, калі яно толькі ёсьць. Але факт той, што зараз у т-ве пануе поўная безгаспадарчасьць ці інакш кажучы, **„гаспадараньне“ Штукара. Пануе абязьлічка, самацёк, а можа і яшчэ што большае,** чым павінна зацікавіцца РСІ і інш. арганізацыі і ўстановы, а ў першую чаргу Белкахотсаюз. Менавіта з гэтае прычыны зрываюцца пляны загатовак, хоць для выкананьня іх у Лельчыцкім раёне і ёсьць усе аб'ектыўныя магчымасьці.

А таму, каб выйсьці з такога становішча, неабходна перш за ўсё прызваць к парадку Штукароў—заядлых душыцеляў бальшавіцкай самакрытыкі. Па-другое, неабходна вытравіць апартунізм, які пануе ў праўленьні цалкам. Будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі і справа выкананьня плянаў патрабуе гэтага. **К—н.**

## Праца—на паперы, а недахопы—на факце

Не адзін раз на старонках „Паляўнічы Беларусі“ адзначалася дрэнная работа Пухавіцкага таварыства. Але справа там не палепшылася і да гэтага часу. Возьмем, напрыклад, становішча трусятніку. Па пляну грунтоўнае стада ў ім павінна быць даведзена да 300 матак. Іх ёсьць 275. Злучкі павінны былі пачацца 15 лютага, а тым часам на 15 сакавіка злучана ўсяго толькі 20 самак. Самкі знаходзяцца ў цёмным хляву ў катухох па 5—10 штук разам і ніякіх захадаў па паляпшэньні іх становішча ня робіцца. Кармоў зусім няма, за выключэньнем 3—4 цэнт. нягоднага для трусоў сена, а між тым ёсьць нарады на 2 *т.* бульбы (ад 25-XII—31 г.) і 2 *т.* сена (ад 1-II—32 г.). Але гэтыя кармы яшчэ не атрыманы і трусы кормяцца адным гальлём. Ніякіх захадаў па будаўніцтву памяшканьняў праўленьне ня прымае (кажуць, што дзета закуплена хата). Рабочыя „з міласьці“ жывуць у б. гаспадара будынкаў, якія зараз знаходзяцца пад трусятнікам. Вытворчы плян, вядома, будзе сарван, а калі Белкахотсаюзам у асобе інструктара была прапанова частку самак накіраваць у другія трусятнікі для скарыстаньня іх у вытворчых мэтах, дык праўленьне па чале з старшынёй Кудзіным пачало супярэчыць і ўсе-ж пакінула ўсіх трусоў для сябе, зрабіўшы рад няжыцьцёвых пастаноў аб палепшаньні становішча, якія вядома застануцца толькі на паперы. Гаспадарчага „вока“ ні ў воднай галіне працы т-ва няма. Да веснавой пасеўнай кампаніі нічога не падрыхтавана і пра тое, як будзе рабіцца апрацоўка глебы, якім насеньнем будзе засявацца—ніхто ня ведае і ня цікавіцца.



Сартыроўка кошкі на пушбазе Саюзпушніны.

Адбыліся перавыбары праўленьня, але застаўся былы старшыня па саўмяшчальнасьці. На паперы сябры праўленьня падзялілі паміж сабой абавязкі—але і пасьля гэтага ніхто не працуе. І не адчувае сябе адказным за даную галіну работы. Крама зьмяшчаецца ў дрэнным памяшканьні, разам з канцылярыяй. Але аб тым, калі будзе пабудаван прывезены будынак, (калі большую частку яго ня выкарысталі на дровы мясцовыя жыхары)—нікому невядома.

Чарговыя кампаніі не праведзены, пляны ня выкананы. Праўленьне толькі запэўнівае „усё будзе добра, не палохайцеся“!..

Лепшы раён па БССР па ўмовах для трусагадоўлі, да гэтага часу не заключыў ніводнага дагавора па контрактацыі прадукцыі трусагадоўлі, не арганізаваў і не правёў месячніку трусагадоўлі.

А між тым, не зважаючы на такое становішча, мясцовыя арганізацыі адказваюць: „няма (?!) пра-

цаўнікоў для прызначэньня на сталую працу ў т-ва (ні адказных, ні тэхнічных), а з гэтае прычыны кульгае ўся праца". З тым, што праца і сапраўды „кульгае"—мы цалкам згодны, **бо няма ніякай ні справаздачнасьці, ні адказнасьці за справу, існуе безгаспадарчасьць, абязьлічка, бясплянавасьць,** у выніку чаго 700 асоб паляўнічых кінуты без усялякай увагі і ўсебаковага абслугоўваньня. Але-ж падобныя заявы кіруючых раённых установ і арганізацый у лепшым выпадку аб'ектыўна накіраваны на абарону самага заядлага правага апартунізма, а можа быць і шкодніцтва. Бо выходзячы з таго становішча, што наглядаецца ў т-ве наогул, мы яшчэ раз рашуча патрабуем умяшацельства ў справы яго (т-ва) органаў РСІ. **Бо неаднаразовыя напамінкі часопісі „П. Б." і інструктаж з боку Белкахотсаюзу—не дапамагае.**

**Інструктар.**

# ПА СССР

## Прэмія лепшым саюзам паляўнічых за пасьпяховае выкананьне плянаў пушмехнарыхтовак

* За лепшае выкананьне і перавыкананьне плянаў пушмехнарыхтовак. Першы ўстаноўчы зьезд упаўнаважаных Саюзнага Паляўнічага цэнтру пастанавіў выдаць Усходня-Сібірскаму Саюзу Паляўнічых першую прэмію грашыма ў суме 5.500 р. Гэтыя сродкі мяркуецца выкарыстаць такім чынам: на будаўніцтва ў нізоўцы 3.500 рублёў, на выдачу прэмій нізавым працаўнікам 1.000 руб. і працаўнікам апарату 1.000 р. Старшыню праўленьня Усходня-Сібірскага Саюзу тав. **Рыбакова** пастаноўлена прэміраваць адной замежнай двохрульнай стрэльбай.

* За выкананьне пляну пушмехнарыхтовак у чацьвертым квартале 1932 году на 138 проц. і ў 1931 годзе на 120 проц. выдана другая прэмія Уральскаму Абласному Саюзу Паляўнічых у суме 4.000 рублёў. Гэтую суму мяркуецца выкарыстаць: на капітальнае будаўніцтва 3.000 руб. і на прэміраваньне працаўнікоў Саюзу 1.000 руб. Апрача таго, старшыня праўленьня гэтага саюзу тав. **Жаўтоўскі** прэміраван за энэргічную працу адной замежнай стрэльбай і гадавой падпіскай на „Охотничью газету".

* За выкананьне пляну пушнанарыхтовак на 139 проц. у 1932 годзе і на 115 проц. у мінулым годзе выдана трэцяя прэмія Паўночна-Каўкаскаму Краевому Саюзу Паляўнічых у разьмеры 150 рублёў. Апрача таго, выдадзена адна радыёўстаноўка і пакінуты за саюзам чырвоны пераходзячы сьцяг Саюзнага Паляўнічага Цэнтру. Старшыня саюзу тав. **Гарадінчоў** за энэргічную працу прэміраван адной замежнай стрэльбай.

* За выкананьне плянаў па дзічанарыхтоўках у 1932 годзе на 209 проц. і ў 1931 годзе на 116 проц. выдадзена першая прэмія Башкірскаму Саюзу Паляўнічых—4 двухрульных замежных стрэльбы, з іменным надпісам для прэміраваньня лепшых ударнікаў паляўнічых. Апрача таго, дадзена 10 бясплатных месц на завочныя курсы Цэнтра для працаўнікоў саюзу і нізоўкі і выдадзена 1.000 руб. на прэміраваньне працаўнікоў. Старшыні саюзу тав. **Токарову** выдадзена адна замежная стрэльба.

* За выкананьне плянаў па дзічыне ў чацьвертым квартале 1932 г. на 339 проц. і ўсяго гадавога пляну па пушніне ў 1931 годзе на 183 проц., выдадзена другая прэмія Сярэдня-Волскаму Краяваму Саюзу—2 двухрульных замежных стрэльбы з іменным надпісам, два камплекты збору твораў **Ул. Леніна**, камбінаваны праэкцыённы ліхтар, тры сэрыі дыапозытываў, 800 рублёў для прэміраваньня працаўнікоў—ударнікаў нізоўкі і старшыне праўленьня Саюзу выдана адна замежная двухрульная стрэльба.

* За выкананьне пляну пушных загатовак у 1931 годзе на 126 проц. і ў першым квартале 1932 году на 111 проц. прэміяван Крымскі Саюз Паляўнічых адной двухрульнай замежнай стрэльбай.

## З пасяджэньняў праўленьня Белкохотсаюза

* На правядзеньне Ўсебеларускай выстаўкі і палявых спроб паляўнічых сабак, у гэтым годзе Белкахотсаюз вызначыў 2.000 рублёў.

На правядзеньне раённых выставак паляўнічых сабак і выдачу прэмій і прызоў прызначана 1.000 рублёў.

* Праўленьнем Белкахотсаюза прызнана мэтазгодным для захаваньня і размнажэньня заводзкіх паляўнічых сабак адчыніць пры Белкахотсаюзе гадавальнік сабак. Гадавальнік мяркуецца адчыніць на 8 матак і 2 вытворцы.

* Для выяўленьня найлепшых выжлаў (лягавых сабак) па рабоце і па заводзкасьці праўленьне Белкахотсаюза пастанавіла правесьці палявыя спробы 15—16 ліпеня гэтага году, а 18 ліпеня выстаўку ўсіх парод паляўнічых сабак.

Спробы ганчакоў правесьці 6—8 кастрычніка.

* У мэтах пасьпяховага правядзеньня паляўнічых угодзьдзяў рэарганізаваць ячэйкі паляўнічых у прамыслова-каапэрацыйныя паляўнічыя арцелі.

* 47 таварыстваў паляўнічых выканалі і перавыканалі свае пляны нарыхтовак у першым квартале 1932 году ў сярэднім на 130 проц. Праўленьне Белкахотсаюзу мяркуе прэміраваць працаўнікоў гэтых таварыстваў за ўдарную работу па пушмехнарыхтоўках.

Упакоўка вавёркі

на пушной базе.



# Прызваць к парадку Залескага

Старшыня Веткаўскага т-ва паляўнічых **Залескі В.** разглядае саюз паляўнічых як сваеасаблівы аддзел сацзабесьпячэньня (Сабез) яго ных уласных патрэб. Падаем некалькі фактаў. У лістападзе м-цы 1931 г. **Залескі**, не ўзгадніўшы пытаньня з астатнімі сябрамі праўленьня, за сродкі т-ва купіў дом, за які заплаціў 1800 руб. Згодна папярэдніх яго меркаваньняў (матыў для пакупкі дому) у гэтым доме павінна была быць зьмешчана канцэлярыя, магазын і бібліятэка-чытальня. Аднак замест таго, каб зрабіць так, **Залескі** зноў за сродкі т-ва адрамантаваў гэты дом і пад сваю ўласную асобу „адвёў"... тры пакоі і толькі адзін пакойчык пад праўленьне т-ва. Уся работа т-ва канцэнтруецца ў гэтым пакойчыку-магазыне. У канцэлярыі-ж, якую меркаваў **Залескі** зрабіць у купленым доме, пастаўлен стол, табурэт, на сьценах—некалькі лёзунгаў. Наведвальнікаў-жа гэтай „канцэлярыі" складаюць адзін... кролік, дзьве курыцы, парсюк—маёмасьць **Залескага**.

Сам **Залескі** нічога ня робіць. З магазына бярэ ўсё, што яму трэба. Прыклад: без расцэнкі, па сабекошту ўзяў хутру. Усю работу ён ўзваліў на крамніка **Пракопенку**. Але-ж загатоўка пушніны і мехсыравіны ідзе самацёкам. Жывая сувязь з ячэйкам на мясцох адсутнічае. А між тым **Залескі** атрымлівае 150 руб. пэнсіі. За што?

**Залескаму** сьледуе і бухгальтар **Ермакоў**, які прыходзіць у праўленьне толькі для таго, каб атрымаць пэнсіі 70 р. Два м-цы таму назад рэвізійная камісія прапанавала **Ермакову** прывесьці ў парадак справаздачнасьць. Але гэтай прапановы ён ня выканаў. А **Залескі** тым часам ніякіх мер супроць **Ермакова** ня прымае: „свой свайго ведае"...

Крамніку-ж т. **Пракопенка** замест 100 р. пэнсіі, якая вызначана ей, Залескі выпісвае 85. І гэта ў той час, калі **Пракопенка** вядзе ўсю работу т-ва: адпускае тавары, прымае пушніну, дае неабходныя весткі, робіць перавучот і г. д.

Мы патрабуем прызваць к парадку **Залескага** і **Ермакова** і аздаравіць работу таварыства. Адзначаныя бюракратычныя паводзіны **Залескага і Ермакова** ў каапэрацыйнай арганізацыі надалей цярпімы быць ня могуць.

**Ч—й.**

# Полацкае т-ва ўзялася за ажыўленьне работы

Пры абсьледваньні раду раённых таварystваў паляўнічых усюду прышлося спаткаць шмат недахопаў як наогул у працы, так асабліва ў выкананьні плянаў загатовак і правядзеньні чарговых ударных кампаній. Так, **Віцебскае, Лёзьненскае, Гарадоцкае, Сіроцінскае, Дрысенскае, Бешанкавіцкае т-вы** ў адзначаным напрамку працавалі недастаткова.



Сартыроўка ваўка (На пушбазе Саюзпушніны).

Выключэньне з гэтага становіць **Полацкае т-ва**, якое праводзіла самастойную працу і мае значныя зрухі ў бок яе палепшаньня ва ўсіх галінах. Праўда, і там са значным спазьненьнем праводзіўся месячнік трусагадоўлі, і там наглядалася адсталасьць бухгальтэрыі і непрадстаўленьне да гэтага часу балянсу на 1-1—32 г., і там не ўкамплектаван трусятнік. Але ўсё-ж, поруч з гэтым, зроблена шмат для пасьпяховага правядзеньня 2-хтыднёвіку па адстрэлу лісіц і ваўкоў у заказьніках і 10-днеўніку па ўзмацненьні лову. Па полацкім т-ве ўжо па 27 лютага была значнае перавыкананьне пляну 1 квартала пушнамехазагатовак і здавальняючы ход працы па мабілізацыі сродкаў.

Трэба ўсё-ж адначасова адзначыць вельмі дрэнную працу ў галіне заключэньня контрактацыйных дагавораў, якіх заключана вельмі мала з паасобнымі паляўнічымі, зусім не заключана з калгасамі, школамі, піанэратрадамі і г. д.

Гэты недахоп кіраўнік т-ва тлумачыць адсутнасьцю друкаваных блянкаў і наогул паперы. Але-ж такое апраўданьне нельга лічыць здавальняючым і дастатковым, бо як бы там ні было, а з-за паперы пляны не павінны быць нявыкананымі.

Вельмі добра налажана культурна-асьветная масавая праца, якая на працягу гадоў вельмі кульгала ў Полацкім таварыстве. Зараз выпушчан чарговы нумар насьценгазэты, ёсьць бібліятэка, радыёпрыёмнік, чытальня, ленінскі куток. Уся гэта праца праведзена новым складам культкамісіі, якая адразу-ж узялася за працу. Сродкі на ўсё абсталяваньне культкамісія набыла самастойна, арганізаваўшы для гэтай мэты спэктакль, які даў 250 руб. А зараз і праўленьне т-ва выдзеліла на гэту мэту 135 р. 60 к. з сваіх прыбыткаў. Культфонд па каштарысу 1931 г. у суме 80 руб. застаўся нескарыстаным.

Будзем спадзявацца, што Полацкае таварыства яшчэ больш узмоцніць пачатую працу.

**Б. С.**

# Па Асіпавіцкаму т-ву паляўнічых

Трусаводная гаспадарка знаходзіцца ў 12 кілёмэтраў ад Асіпавічы на хут. Грабоўка, Дзерыцкоўскага сельсавета. Паводле заданьня трэба была мець 1000 самак, зараз ёсьць дарослых толькі 82 і 84 маладых трусы, яшчэ не адлучаных.



Шкуркі зайцоў

Падрыхтоўчая праца да пасеўнай кампаніі і будаўніцтва трусагадоўчых будынкаў праведзена, не хапае толькі часткі будаўнічых матар'ялаў.

Праўленьне да справы трусагадоўлі адносіцца зацікаўлена, перашкаджае толькі адсутнасьць вопытных працаўнікоў па трусагадоўлі і наяўнасьць хваробы какцыдзіозу сярод трусоў, якая пры прыняцьці належных мерапрыемстваў і захоўваньні чыстаты ня будзе шкоднай для трусятніку.

Увосень 1931 г. у час манэўраў прапала ад газаў 47 маладых трусоў, што адмоўна адбілася на камплектаваньні стада. Мэтады ўтрыманьня трусоў прызначаны: клетачна-выгульны і паркетны, для чаго ёсьць усе магчымасьці. Гаспадарка мае ўсе магчымасьці для пасьпяховага разьвіцьця.

Наогул становішча ўсіх спраў у т-ве здавальняючае, але неабходна, каб у складзе праўленьня быў бы сталы працаўнік—старшыня.

**Інструктар.**

# Глупства ці хуліганства?

Ужо ня раз на старонках часопісі зазначалася аб дасягненьнях у справе сабакагадоўлі па Барысаўскім раёне. У выніку напружанай працы, сэкцыяй кроўнай сабакагадоўлі набыта шмат каштоўных сабак з маскоўскага гадавальніка „Всекохотсаюза", а таксама в г. Астрава ад заводчыка Ціхамірава і з беларускага гадавальніку.

Здавалася-б, пасьля гэтага, што справа стаіць добра і трэба ў далейшым толькі рацыянальна скарыстоўваць гэты каштоўны племянны матар'ял. Але вось знайшліся такія асобы, якія палічылі, што сабак у нас разьвялося залішне і парашылі спыніць работу сэкцыі. Так, гарадзецкая ячэйка паляўнічых надумалася вытварыць адстрэл брадзячых сабак і дала інструкцыю страляць без разбору ўсіх сабак, якія пападуцца на вуліцы. Вынікі былі нечаканыя: застрэлена гончая выжлоўка з маскоўскага гадавальніку, гончы выжлец з Беларускага гадавальніку, англа-рускі выжлец, вывезены з Пскова, нойнтэр; ранены два выжляцы з маскоўскага гадавальніку і інш. Такім чынам, па глупству двох-троў таварышоў з Барысаўскага т-ва зьнішчана некалькі заводзкіх сабак.

Вінаватых Барысаўскае т-ва паляўнічых павінна прыцягнуць да адказнасьці.

**К. Пятроўскі.**

# Як трэба працаваць

Быхаўскае т-ва паляўнічых у выніку добра пастаўленай работы па загатоўцы пушніны і мехсыравіны, гадовы плян на 24 лютага 1932 г. выканала на 52 проц. Такі процант выкананьня т-ва атрымала шляхам разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж паляўнічымі і ячэйкамі, контрактацыі, культмасавай работы і г. д. Спрыяла гэтаму і пасьпяховае правядзеньне 2-хтыднёвіку па адстрэлу драпежнікаў, бадзячых сабак, а таксама ваўка і лісіцы ў заказьніках згодна дырэктыўнага ліста Белкахотсаюза.

**Паура.**



Сартыроўка ліса (Пушбаза).

# Дамо паляўнічаму добраякасны капкан

Цэлы рад відаў, як, напрыклад, калёнак, гарнастай, хамяк і інш., прамышляюцца амаль выключна капканамі і лавушкамі. Адсюль зразумела, якое значэньне ў разьвіцьці пушнога промыслу нашай краіны маюць рацыяналізацыя і палепшаньне капканаў і лавушак, якімі ўзброен паляўнічы.

Аднак, ня гледзячы на бясспрэчнае значэньне рацыяналізацыі сродкаў лову для разьвіцьця нашага пушнога промыслу, зацікаўленыя арганізацыі да сучаснага моманту не займаліся гэтым пытаньнем досыць сур'ёзна.

Нажаль, прыходзіцца прызнаць, што выпускаемыя нашымі заводамі і саматужнымі майстэрнямі капканы і лавушкі адрозьніваюцца выключна нізкай якасьцю, а часта зьяўляюцца проста бракам.

Асноўным недахопам дугавых капканаў зьяўляецца нестандартнасьць, г. зн. калі пад адным і тым-жа намерам розныя майстэрні выпускаюць капканы розных канструкцый, разьмеру, сілы спружын, дыямэтра дугі і г. д.

Простым вынікам нестандартнай выпрацоўкі капканаў зьяўляецца дрэнная прыгонка асобных частак; у адных капканаў дугі вельмі малыя, у другіх спружыны не адпавядаюць разьмеру самога капкану, у трэціх язычок не зачапляе за старажок і г. д.

Спружыны капканаў па сваёй якасьці ніжэй усякай крытыкі: яны вельмі слабы, хутка трацяць пругкасьць і лёгка ламаюцца. Вельмі часта грубіня іх настолькі нероўнамерная, што яны ламаюцца пры першай спробе настарожыць капкан; у двух-спружынных капканах абедзьве спружыны бываюць часта рознай сілы, што дазваляе злоўленаму зьверу лёгка вырвацца.

Дугі капканаў робяць звычайна з вельмі тонкага жалеза, ад чаго пры захлопваньні капкана вострыя дугі нярэдка перасякаюць ногі злоўленаму зьверу.

Талерачку-старожку робяць недапусьціма маленькай, што значна памяншае шансы пападаньня зьвера.

Нарэшце, выпускаемыя нашымі заводамі капканы вельмі аднастайны: шмат якія мадэлі, шырока распаўсюджаныя за граніцай, у нас не вырабляюцца. Такавы драўляныя і пецельныя капканы, з простакутнымі дугамі і г. д.

Вельмі істотны недахоп маюць таксама спэцыяльныя лавушкі, прыгатаўляемыя нашай прамысловасьцю. Кроталоўкі звычайна вырабляюцца з неацынкаванага дроту, з-за чаго яны хутка ржавеюць; старажок іх дрэнна прыгнан, і часта самому паляўнічаму прыходзіцца перарабляць лавушку.

Ершы для лоўлі крыс, як паказала абсьледваньне, утворанае лябораторыяй пушнога тавараведаньня, маюць наступныя недахопы:

1. Яны часта робяцца з бліскучага дроту, што адпугвае крыс.
2. У вершы з Ленінграда апускная дзьверца робіцца з бліскучай бляхі, што па тэй-жа прычыне недапусьціма.
3. У тым-жа вершы зусім залішне другое жарло, што вядзе толькі да лішняй траты дроту.

Такія асноўныя дэфэкты капканаў і лавушак, прыгатаўляемых зараз нашымі заводамі і майстэрнямі. У сувязі з гэтым перад нашымі загатоўчымі арганізацыямі стаіць адказная задача забясьпечыць паляўнічага самалоўнымі прыналежнасьцямі высокай якасьці, найбольш мэтазгоднай сыстэмы, у разнастайным, але стандартным асартымэнце.

Мы лічым, што выкананьне гэтай задачы магчыма толькі пры правядзеньні ў жыцьцё наступных мерапрыемстваў:

1. Канцэнтраваць вытворчасьць у адным спэцыяльна абсталяваным заводзе, не распыляючы яго ў многіх непрыстасаваных саматужных майстэрнях.
2. Устанавіць цьвёрдыя стандартныя мадэлі розных капканаў і лавушак.
3. Стварыць спэцыяльную рабочую камісію па распрацоўцы найбольш рацыянальных тыпаў самалоўных апаратаў.
4. Шырокае прыцягненьне вынаходцаў да справы палепшаньня канструкцыі існуючых тыпаў капканаў і вынаходтва ў новых мадэляй.
5. Шырокае абгаварэньне ў друку недахопаў выпускаемых зараз капканаў і лавушак.
6. Палепшаньне якасьці матар'ялаў, якія ідуць на прыгатаваньне капканаў.
7. Устанаўленьне цьвёрдага асартымэнта самалоўных прылад для асобных абласьцей Саюзу.
8. Шырокае вывучэньне замежнага досьледу ў справе прыгатаваньня і ўжываньня розных капканаў.
9. Выкарыстаньне мясцовых саматужных самаловак у якасьці мадэляй для распрацоўкі новых тыпаў лавушак, прыгатаўляемых заводзкім шляхам.

У апошні час Саюзпушніна, праўда, ужыла некаторыя захады да павышэньня якасьці самалоўнага ўзбраеньня паляўнічага: быў праведзен (ня даўшы пакуль ніякіх вынікаў) конкурс на лепшую лавушку амбарнай крысы; мяркуецца арганізацыя конкурсу на рад другіх лавушак.

Але ўсе гэтыя мерапрыемствы зьяўляюцца толькі першымі спробнымі крокамі ў палепшаньні і рацыяналізацыі капканных прылад, а час не чакае. Самі прамысловцы павінны дапамагчы ў палепшаньні і рацыяналізацыі свайго промыслу.

**Б. А. Кузьняцоў („ЗОП“).**



Адсартаваныя скуркі харка.

# Воўк і яго зьнішчэньне

Нямала ўжо гаварылася аб ваўку на старонках паляўнічага друку і, як відаць, нямала яшчэ прыдзецца гаварыць аб гэтым драпежніку. Воўк—вельмі вялізнае зло для сельскае паляўнічае гаспадаркі. У 60-х гадох па ўсёй Расіі ваўкамі штогодна зьнішчалася жывёлы на суму да 6 мільёнаў рублёў. У 1873 годзе ў 45 губ. Эўрапэйскай Расіі (ня лічучы абласьцей войска данскога і ўральскага, Польшчы і інш.) ваўкамі зьнішчана было буйнай жывёлы 179 тыс. галоў дробнай—562.900 галоў—на агульную суму ў 7.573.000 р., пры чым, галава буйнай жывёлы ацэньвалася ў 30 р., а дробнай ў 4 р. Лічбы гэтыя атрымоўваліся з афіцыйных даных і ў шмат выпадках заведама памяншаліся. Аўтар, які тады рабіў гэтую зводку па даручэньні ўраду шляхам асобных вылічэньняў, знаходзіў агульную суму страт ад ваўкоў па ўсёй Эўрапэйскай Расіі, уключаючы сюды і каштоўнасьць зьнішчанай хатняй птушкі і сабак, у вялізарную лічбу—16 мільёнаў рублёў. У 90-х г. г. страта ваўка значна падае. Падзеньне выцякае з разьвіцьця тэхнікі і культуры і мерапрыпрыемстваў па барацьбе з гэтым драпежнікам. Сусьветная вайна спыніла барацьбу з ваўком. Сьледуючыя за вайной гады спрыялі для памнажэньня ваўкоў і ў выніку колькасьць зьнішчаемага ската ўзрасла да катастрафічных разьмераў. У 1925 годзе статыстыка па 41 губ. і вобл. (ня ўключаючы Сібіры) паказала зьнішчаных ваўкамі: коняй і жарабят 53.630, кароў і цялят—50.740, дробнай жывёлы—254.220, разам на суму 4.782.700 руб. У прыватнасьці па б. Віцебскай губ. (другіх губ. Беларусі па статыстычных зьвестках, якія ў мяне ёсьць, ня значыцца) коняй і жарабят 870, кароў і цялят—1.000, дробнай жывёлы—8.500, на суму 82.300 руб. Былі выпадкі і сьмерці людзей у выніку нападу ваўка.

Дастаткова сказаць, што воўчая навала выклікала пастанову Савету Народных Камісараў РСФСР ад 9 кастрычніка 1925 году аб барацьбе з гэтым і інш. драпежнікамі, а паляўнічы забіў трывогу аб воўчым памнажэньні і за апошнія гады ня мала зьнішчана гэтага драпежніка. Аднак, трэба сказаць, што мы, СССР, штогод кормім ня менш 45.000 галоў ваўка.

Зьвярнуўшы ўвагу чытача на шкоду ваўка, прыносімаю нашай сельскай гаспадарцы, я буду гаварыць аб вельмі дзейным спосабе барацьбы з гэтым драпежнікам, які па сваёй упэўненасьці лічу сапраўдным,—гэта зьнішчэньне воўчых шчанят. Ня трэба даводзіць, што гэты спосаб павінен заняць першае месца між іншымі, гэта бясспрэчна. Але, паколькі, ў нашай часопісі гаварылася ўжо аб гэтым спосабе—зьнішчэньні воўчых шчанят*), таму мне застаецца толькі даць некаторыя дадатковыя даныя, інакш гаворачы—націснуць яшчэ раз на гэтага зьвера.

Зьнішчэньне воўчых шчанят можа ўтварацца бяз усякіх затрат і выдаткаў, так сказаць хатнімі сродкамі. Даступны гэты спосаб ня толькі ўсякаму паляўнічаму, але і ўсякаму грамадзяніну вёскі, для гэтага трэба толькі ведаць, калі зьяўляюцца ваўчаняты. Ваўчаняты родзяцца сьляпымі і могуць бачыць толькі тыдні праз два. У першыя тры месяцы моладзь расьце кепска і зусім не адыходзіць ад гнязда. Відавочна, што самы зручны і дабычлівы час для зьнішчэньня ваўчат будзе **красавік, май і чэрвень.** Каб зьнішчыць воўчы вывадак улетку, трэба спачатку праведаць, дзе трымаюцца старыя ваўкі, і потым вызначыць магчыма дакладней тое месца, дзе знаходзяцца ваўчаняты.

Ваўкі з году у год шчэняцца ў адным і тым-жа месцы, таму мясцовы паляўнічы і нават не паляўнічы ведаюць месца воўчых прабываньняў, так што ўстанавіць іх даволі проста. Застаецца толькі праверыць гэтае месца. Правяраць гняздо трэба зайсёды з асьцярожнасьцю, заходзячы з падветранага боку і па магчымасьці не набліжаючыся на блізкую адлегласьць, бо бывае, што патурбаваныя ваўкі пераносяць або пераводзяць свой вывадак у новае месца.

Першая задача—забіць старыкоў. Для гэтага трэба высьветліць месца сталага іх ходу і выбраць назіральны пункт. Назіральны пункт трэба выбіраць вельмі асьцярожна і адпаведна з пярэсмыкамі зьвера; трэба мець на ўвазе, што ваўкі ад гнязда ідуць пад прыкрыцьцём, не зьяўляючыся на чыстых мясцох. У залежнасьці ад магчымага напрамку ходу зьвера выбіраецца і назіральны пункт—куст, дрэвы, бугор і г. д. Калі пярэсмык дакладна вызначан, на ім садзяцца ў засаду, так, каб пярэсмак абавязкова быў з паветранага боку. Дастаткова толькі малейшага ветрыку ад засады на ваўка—засада ваша будзе ім адкрыта. Галоўная мэта задачы—забіць ваўчыцу. Пасьля таго, як ваўчыца—матка забіта, можна думаць, што вывадак будзе зьнішчан, асабліва калі ваўчаняты яшчэ сьляпыя. У вячэрніх сумерках зусім немагчыма адрозьніць ваўка ад ваўчыцы, тут трэба цьвёрда памятаць, што з вечару, выходзячы на здабычу, ідзе першым воўк, а вяртаючыся з дабычы—ідзе першая ваўчыца. Таму, калі засада зроблена з вечару, трэба прапускаць першага ваўка і страляць у другога, а калі чакаюцца на раняшняй зорцы—страляць першага. Потым пабіць маладых і разбурыць гняздо.

**Ф. А. Аялін.**

*) № 7—8—10, 11 „П. Б.“ Тамаш.

# КАНТРАКТУЙЦЕ ПРАДУКЦЫЮ ТРУСАГАДОЎЛІ

Як і іншыя віды нарыхтовак, нарыхтоўка прадукцыі трусагадоўлі таксама праходзіць у гэтым годзе шляхам контрактацыі. Наша сыстэма, як і іншыя нарыхтоўкі, павінна праводзіць контрактацыю ва ўсіх трусаводных гаспадарках: саўгасных, калгасных, аднаасобных і г. д. Асаблівую ўвагу належыць зьвярнуць пры гэтым на контрактацыю ў калгасных гаспадарках, у паасобных калгасьнікаў. Ім трэба дапамагаць у разьвіцьці трусагадоўлі выдачай пры заключэньні кантрактацыйных умоў авансаў прамтаварамі, грашмі і племянным матар'ялам—самкамі трусоў. Авансы пры заключэньні ўмоў павінны выдавацца в разьліку:

1. Для таварных трусаводных фэрм калгасу і прысадзебных гаспадарак калгасьнікаў—70 кап. за кожную скурку і 60 кап. за тушку.

2. Для індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак 50 к. за скурку і 50 к. за тушку.

Работу па кантрактацыі трэба правесьці ўдарным парадкам, разгортваючы сацспаборніцтва паміж калгасамі, калгасьнікамі, райтаварыствамі паляўнічых, ячэйкамі, паасобнымі паляўнічымі. Увесь плян па кантрактацыі павінен быць выканан да 1 чэрвеня 1932 году.

Гадавое заданьне кантрактацыі па сыстэме паляўнічай каапэрацыі наступнае: 60.000 скурак і 30 000 тушак. Такое заданьне выканаць магчыма, бо па зьвестках толькі некаторыя т-вы паляўнічых (Вушацкі, Плешчаніцкі, Нараўлянскі, Старадароскі і Кармянскі) ня маюць зусім трусоў, тады як ва ўсіх астатніх райтаварыствах больш-менш трусагадоўля разгорнута.

Таму неабходна, каб нашы таварыствы больш увагі зьвярнулі на правядзеньне гэтай працы, бо ў бягучым годзе нельга дапусьціць памылак 1931 году, калі замест 13.800 тушак было здана толькі 1.342.

У прыватнасьці, для выкананьня пляну трэба зьвярнуць увагу на аднаасобныя трусаводныя гаспадаркі і зацікавіць іх кантрактацыяй. Акрамя таго, таварыствам трэба сачыць за выкананьнем дагавароў, што ў сваю чаргу выклікае лепшы нагляд за гаспадаркамі кантрактантаў.

У аднаасобнікаў трусы ўтрымліваюцца ў дрэнных умовах. Неабходна папулярызаваць лепшыя мэтады ўтрыманьня трусоў: палепшаньне памяшканьня, догляд і захаваньне стада ад драпежнікаў; кармленьне іх, асабліва пры пераходзе на зімнія кармы.

Гэта дало магчымасьць павялічыць колькасьць прыплоду ад кожнага гнязда, паменшыць адыход (падзёж) і павялічыць агульную колькасьць маладняка, а тым самым—і колькасьць і якасьць здаваемай па кантрактацыі прадукцыі трусагадоўлі, якая ў гэтым годзе пераважна (ня менш 70 процантаў) павінна здавацца ў жывой вазе.

**Інструктар.**

# ПРА ЎТВАРЭНЬНЕ „САЮЗХОТЦЭНТРА“

У сакавіку м-цы ў Маскве адбыўся першы ўсесаюзны ўстаноўчы зьезд упаўнаважаных „Саюзхотцэнтра“.

На аснове пастановы СТО ад 31-X—31 г. зьезд прыняў рашэньне аб утварэньні ўсесаюзнага цэнтру прамыслова-паляўнічых, інтэгральна-каапэрацыйных арганізацый „Саюзхотцэнтр“—у складзе абласных, краёвых і рэспубліканскіх саюзаў, уваходзячых у склад РСФСР, і рэспубліканскіх саюзаў прамыслова-паляўнічых каапэрацыйных арганізацый: Украінскага, Беларускага, Туркменістанскага і г. д.

Зьезд распрацаваў і зацьвердзіў палажэньне пра „Саюзхотцэнтр“ і прапанаваў усім рэспубліканскім, краёвым і абласным саюзам на працягу месяца рэарганізаваць іх сыстэму ў адпаведнасьці з палажэньнем аб „Саюзхотцэнтры“, да якога пераходзяць усе ранейшыя функцыі Ўсекохотсаюзу.

Поруч з гэтым зьезд вызначыў задачы па разьвіцьці прамыслова-паляўнічай і інтэгральнай каапэрацый у 2-пяцігодцы. Вызначэньне гэтых задач у дачыненьні да паляўнічай каапэрацыі Беларусі будзе зьмешчана ў наступным нумары.

**А.**



Шкуркі сабак на пушнай базе.

МІК. ЦЭЛЕШ

# ЗІМОВЫЯ НАБЕГІ

(*Працяг*) *)

Другіх пытаньняў на павестцы дня ніякіх ня было і Мікіта з Цімохам узяліся за шапкі, але Прахор, нешта прыпомніўшы, папрасіў пачакаць.

— Ага, яшчэ аб курапатках шэрых забыліся. Я іх знайшоў статку. Паляваньне на іх, як вядома, забаронена. Мала засталося іх. Вядома, калі мы не дапаможам, дык і гэтыя або ўляцяць, або загінуць ад холаду ды голаду.

— А чым мы ім дапаможам,—запытаўся Цімох.

— Таксама падкормку трэба рабіць. Насячэм ельніку, зробім з яго загарадзь, нібы, такую, каб вецер падкормку ня зносіў, ды штодзень будзем трухі якой падсыпаць. Апрача таго ельніку ў загарадзі трэба накласьці, каб птушцы было дзе хавацца ад сьцюжы ды каршуноў. Гэта трэба зрабіць хутчэй, на днях—заўтра або пасьлязаўтра.

Пастанавілі правесьці гэтую работу пасьлязаўтра.

— Ну, зараз усё,—сказаў Прахор.

Паляўнічыя пасядзелі, пагутарылі і разышліся.

Цімох і Мікіта пайшлі ў гумно ўзяць снапоў з дзесятак неабмалочанага аўса. Прахор адзін ішоў дарогай, ад канторы да калгасу. Яму былі чутны галасы таварышоў—бас Мікіты і піскліві галасок Цімоха. Вось скрыпнулі ў гумне вароты, стукнулі дзьверы ў таку, нешта гучна гаварыў Мікіта. Прахор інстынктыўна аглянуўся туды. Сьвет сярнічкі залатым аганьком на міг брызнуў у цемені ночы.

Калі Прахор увайшоў у вуліцу калгаса, замёрлі і ледзь чутныя галасы таварышоў і зноў стала ціха.—„А добрая пароша? Заўтра трэба стукнуць касавокага. Няўжо Коцік не падпіша дагавор на пушніну? Дзе ен шкуркі здае? Трэба, каб заўтра з ім на паляваньне схадзіць, там лягчэй угаварыць чалавека. Там, неяк, хутчэй да згоды прыходзіш з таварышом“,—думаў Прахор. Але раптам яго думкі абарваў нейкі нявыразны, вельмі дзіўны гук, які ў гэты час данёсься да яго слыху. Паказалася, нібы нехта далёка, далёка крычыць або плача. Прахор наставіў вуха ў той бок, адкуль быў чуцен гэты гук і пачаў прыслухоўвацца. Праз некаторы час зноў пачуліся першыя ноткі гэтага гуку і, паколькі Прахор стаяў на месцы, ужо перайшлі ў выразнае завываньне, а потым па верхавінах чарнеючага за калгасам лесу пакаціласа воўчае: „а-уууу!—а-уууу!“—у некалькі галасоў. У адказ на гэта недзе на хутары забрахаў сабака. Прахор сплюнуў і сказаў:

— От яшчэ гэтых зьвяроў ніяк ня зьнішчыць, каб яны павыдахлі! Пасьля гэтага ён хутка падыйшоў да Ігнатавай хаты.

II

У Коціка Ігната ў гэты дзень адбылося здарэньне, якое павярнула ў яго жыцьці ўсё ўверх дном. Але перш, чым расказаць аб гэтым, трэба некалькі слоў сказаць аб самім Коціку. Гэта быў маленькі, ужо пажылы чалавек. Быў ён белабрысы, з шэрымі вачмі і з дробненькім тварам. Галава ў яго маленькая, кругленькая, пакрытая белымі мяккімі валасамі. Вусікі, даволі доўгія і рэдкія, тырчэлі ў бакі. Калі Коцік сьмяяўся, дык адчыняў свой шырокі рот і паказваў два рады белых дробненькіх зубоў. Прозьвішча Ігната было—Малы, але суседзі далі яму мянюшку—Коцік.

Дык вось, які выгляд меў герой наш Коцік Ігнат. Так, больш украдкай, каб ніхто ня бачыў, забіў ён што-небудзь ці не забіў, і паляваў Коцік.

А здарылася з Ігнатам вось што. Дзён за пяць перад тым, як адбылося пасяджэньне паляўнічай ячэйкі. Ігнат неяк павёў коняй паіць да калгаснай студні. Толькі ён напаіў коняй, як да яго падышоў знаёмы Сямён з мястэчка Шапялевіч, які скупліваў раней у яго шкуркі.

— Добры дзень, Сямён!

— Здароў, Коцік!—адказаў той.—Слухай, Ігнат, дадаў ён ласкава, заглядаючы ў вочы,—як у цябе з шкуркамі?

— Як!? Так...

— Ведаеш, што?! Ты ведаеш...—Сямён тут азірнуўся навокал, паглядзеў на ногі Ігната і працягваў:—у мяне, брат, такія боты ёсьць і... як раз на тваю нагу!..

— Боты ёсьць!?—перазапытаў Ігнат.—Але купіць няма завошта.

— Купіць няма завошта?—у сваю чаргу запытаў Сямён.—А дзе шкуркі?

— Шкуркі! Мала шкурак настраляў...

На самай справе ў Ігната было каля 30 шкурак зайца, шкурак з паўсотні вавёркі, адна куніца, тры лісіцы, але ён яшчэ ня ведаў, прадаваць іх Сямёну ці не, бо чакаў лепшай цаны, ды і жонка хацела, каб шкуркі Ігнат аддаў у каапэрацыю, дзе давалі за іх розную матэрыю.

Урэшце Ігнат, жадаючы ведаць цану, прынёс некалькі зайцоў і куніцу, але куніцу пакуль што ён схаваў пад кажух, а паказаў толькі зайцоў.

— От давай за гэтыя шкуркі боты і бабскую суконную хустку рублёў у трыццаць!—сказаў, падумаўшы, Ігнат.

— Ой, не! Што ты, Ігнат! за зайцы—боты! Хто табе дасьць! Нясі ў каапэрацыю хай табе там дадуць. От, каб куніцы або лісіцы.

*) Гл. „П. Б.“ № 3.

— А ў колькі ты свае боты цэніш?—запытаўся Ігнат.

— За куніцу аддам.

— Куніца каштуе больш за сорак рублёў.

— А боты?—Сямён не адставаў.—Пакажы свае шкуркі! Куніцу пакажы!..

Ігнат дастаў з-пад кажуха куніцу. Маленькія, чорныя з жаўцізной, вочкі Сямёна адразу заіскрыліся агенькамі прагнасьці. Пачалі спрачацца, дваццаць разоў вывaрачвалі на ўсе бакі шкурку куніцы, бажыліся, кляліся. Ігнат гаварыў, што за куніцу трэба ня менш даць, як боты і хустку, а Сямён даваў толькі боты. Урэшце Ігнат здаўся і Сямён паклаў куніцу ў свой мяшок.

— Ай, яй! Ну, і народ зараз стаў! Нічога нельга ні прадаць, ні купіць вольнаму чалавеку. Ты ведаеш, што, Ігнат. Я цяпер не важу з сабой аніякага тавару. Усё на кватэры...

Ігнат, не разумеючы ў чым справа, глядзеў на Сямёна, чакаў расплаты.

— Прыходзь заўтра, пасьлязаўтра, да мяне і атрымаеш сваё. Я чалавек сумленны, каб усе такія былі...

— Ого-о! Не!—сказаў Ігнат.

— Ігнат, Ігнатка, што ты? Ці ты першы раз мяне бачыш? Скажы, калі я табе не заплаціў, што належала?

Ігнат, хаця і ня раз быў абдураны Сямёнам, але на гэты час зусім забыўся аб гэтым і, атрымаўшы расьпіску, выпусьціў з хаты Сямёна з куніцай.

Толькі што Сямён схаваўся за варотамі, як зноў скрыпнулі дзьверы і ў хату ўвайшоў высокі, трохі сутулаваты і худы сусед Ігната Зьміцер Корч. Ён сеў на лаўку, павольна выняў з кішэні табаку і, паглядзеўшы нейкім хітрым, з усьмешкай у кутках карых, маленькіх вачэй, позіркам на Ігната сказаў:

— Можа затуманім, каб у галаве трохі палягчэла?

— Давай. Паспрабую тваёй,—з радаснаю ўсьмешкай ад удалай прадажы куніцы згадзіўся Ігнат і пачаў круціць цыгарку.

Корч зацягнуўся, пусьціў воблакі дыму з носу і роту і загаварыў зноў:

— Прадаў што?

— Не, от так заехаў чалавек, пазнаёмству.

Корч падняў галаву і зноў хітра паглядзеў на Ігната.

— За куніцу сорак рублёў даў.

— А ты забіў?—запытаўся Ігнат.

— А што я, не чалавек!?

— А як-жа саюз... Цябе-ж раскудлачылі... Хіба стрэльбу ня даў?

— А скульля,—працадзіў Корч.—А ты колькі ўзяў за куніцу?

Ігнат смуціўся, пачырванеў, але прызнаўся.

— Таксама сорак.

— І добра зрабіў—ужо цішэй, нейкім дрыжачым, нібы радасным, грудным голасам параіў Корч і працягваў:—Мяне выключылі, ну і чорт з імі. Тады хоць рублёў на дзесяць здаваў шкурак, а цяпер скульля. Нічога яны мне ня зробяць. А шкуркі забярэ Сямён. Ты таксама дрэнна зробіш, калі аддасі. Хваробу ім, басякам! Прадаў і добра...

Ігнат моўчкі сасаў цыгарку і сплёўваў жоўтую сьліну на падлогу і слухаў суседа. Пад стольлю ўжо вісела дымавая завеса. А Корч ужо зусім ціха, амаль шопатам, як гадзюка, гаварыў, апякаючы Ігната сваім гарачым поглядам сваіх вострых вачэй.

— А ты ведаеш? Гэтыя басякі будуць хадзіць па дварох ды адбіраць шкуркі.

— А плаціць...

— Якая табе плата? Усё ў кацёл, у пяцігодку... за дарма... Ты, калі маеш трохі шкурак, дык вазьмі от зараз ды пахавай куды.

Яшчэ доўга шаптаў нешта Корч на вуха Ігнату, а калі пайшоў з хаты, дык Ігнат выйшаў у сенцы, сабраў усю сваю здабычу за сэзон, завярнуў у нейкую рагожыну і паклаў у сенцах пад печку ў самы куток, націснуўшы паленам. Ігнат думаў:—„Так будзе ямчэй! А мо' і праўду сусед кажа? Ад цяперашняй жызьні ўсяго чакай!“ Потым, вылезшы з-пад печкі, адчыніў дзьверы сянец, нагнуўшыся, паглядзеў пад печку, ці відаць схаванае. Упэўніўшыся, што ня відаць, пайшоў у хату.

III

Дні праз чатыры Ігнат пайшоў зраньня ў калгас на работу, а Макрыну (жонку) паслаў у Шапялевічы за ботамі і грашмі да Сямёна. Ідучы на работу ён думаў:—„От ужо калі я на паляваньне адхажу. Абы толькі вольны час у калгасе, дык і пайду, і пайду. Чорт з ёй, з ячэйкай, буду аддаваць шкуркі гэтаму гандляру. Бяда мне вялікая, што там няма чым пляны пакрыць. Так, абы доўг адбыць, аднясу калі шкурку сабакі або ката“. І перад яго вачмі сталі паўставаць малюнкі яго ранейшых паляваньняў. Ігнат не заўважыў, як дайшоў да калгасу і толькі к поўдню забыўся аб паляваньні, і аб ботах, якія прынясе Макрына.

Але, прышоўшы з работы, яму прышлося расстацца з сваімі лятуценьнямі. Жонка ня толькі ня прынесла ботаў, але даставіла Ігнату вельмі кепскую вестку: „Гандляр накрыт з цэлым возам шкурак міліцыяй. Ён гандляваў без патэнту. Зараз ён арыштован і некуды адвезен, а шкуркі канфіскаваны—гаварыла Макрына“. Выслухаўшы жонку, Ігнат дагадаўся, што куніца прапала.

Ён спыніўся на месцы і глядзеў на жонку, нібы не разумеючы яе, ня верычы ёй.

— Як гэта так? Што гэта ты гаворыш?—урэшце запытаўся Ігнат.—Ці не звар'яцела ты? Куніцу забраў, а боты?

— От, так, забраў і ўсё тут,—толькі і магла адказаць Макрына.

— Ды як так? Усё-ж так... гэта-ж... як так... Я на яго ў суд падам!

— От падай...

— Можа яго не забралі? Можа ён так проста, круціць, ня хоча боты...

— Можа!—адказала Макрына.—Але я была ў хаце, чакала яго, а потым жонка сказала, што яго забралі з шкуркамі ў міліцыю.

— А хай бы ты схадзіла ў міліцыю ды сказала, што так і так...

— Я хацела іці, але што я скажу, дурная баба.

— От я пайду, от я сам яму, сукінаму сыну, машэніку.

— А я табе сказала-б, і другія таксама, людзі добрыя, кажуць, што ня трэба важдацца з гэтым шпігілянтам. От, лепш-бы аддаў-бы гэтыя шкуркі ў кружок свой ды хустку браў-бы, а то пакуль прышла з мястэчка, дык галава мая зусім адмерзла. Або так што! Ці мала чаго людзі добрыя набралі за шкуркі! От глядзі, Ісачонак, і ботаў, і паліто, і хусткі і ўсяго мае, а які ён стралец? Людзям, дык от жывецца, а мы дык гаруем... Найшоў з кім справу мець, з шпігілянтам нейкім.

— Табе хусткі, хусткі, сучка ты старая! Мне боты трэба, а ня хусткі!—крычаў ён.

Макрына не ўцярпела:

— Чаго ты лаешся, стары сабака. Нарабіў, а зараз яшчэ крычыш.

Пачалася сварка, якая кончылася б тым, што Ігнат пабіў-бы Макрыну, але ў гэты момант нехта стукнуў у вакно. Жонка Ігната крыкнула:

— Людзей бы хоць пасароміўся.

Ігнат падышоў да вакна. Адтуль пачуўся голас:

— Дома?

— Дома, бог бы яго пакараў... Цьфу, ты чорт...— заблытаўся ён ад злосьці.

У хату ўвайшоў Прахор.

## IV

— Здароў, Ігнат!—сказаў Прахор, працягваючы руку.—Што гэта ты ваюеш з бабамі?

Ігнат не пасьпеў адказаць,—ды і нечага было яму адказваць,—як выпаліла яго жонка:

— Сямён куніцу злавіў... не... я ня тое!..—Хацела яна направіцца, але Ігнат крыкнуў:

— Цыц!—потым зьвярнуўся да Прахора.—Ты ня слухай яе! Дурная баба!

Макрына, заплакаўшы, палезла на палаці да дзяцей, а Ігнат пачаў гутарку з Прахорам, папраўляць справу, каб замесьці сьляды.

— От, брат, як мяцеліца была закруціла!—сказаў ён.—Трымалася, трымалася, нарывала-нарывала, ды і прарвала.

— А зараз дні добрыя, пароша гэтакая,—адказаў Прахор бясхітрасна і наводзячы гутарку на сваю справу, за якой прыйшоў.

Яму абавязкова хацелася закантрактаваць Ігната, але ён ведаў, што гэта хітрая штучка і дзейнічаць трэба памалу, асьцярожна, а то Ігнат адмовіцца, як і летась.

— Заўтра сходзім можа,—сказаў ён, углядаючыся ў вочы Ігнату.

— Ат, чорт яго з паляваньнем! Валачыцца па сьнягу. Дыісьці ані няма ў чым.

Прахор ведаў, што ботаў у Ігната сапраўды няма, але ён дагадваўся і аб тым, што Ігнат, як і заўсёды, ня хоча ісьці з кім-небудзь на паляваньне, таму не пярэчыў.

— Там пра цябе разгаворы былі,—перавёў ён гутарку на іншую тэму.

— Дзе?—запытаўся Ігнат.

— У ячэйцы.

— Пра што?

— А, так... гаварылі...

— Нууу...

— Гаварылі, што ты пушніны не здаеш.

— Дык нямя яе! Дзе-ж узяць?

— Ат, кінь ты, Ігнат, дурыць! Калі няма, дык трэба, каб была. Чаго-ж ня ходзіш на паляваньне?— нібы з іроніяй запытаўся Прахор.—Усіх цураешся, хаваешся, як воўк той.

— Ды я з ахвотай бы, але от тое ды сее, так і бяжыць час...

Ігнат прыжмурыў вочы і пачаў у задуменьні, моўчкі глядзець міма Прахора. Прахор, з ледзь заметнай усьмешкай у кутках роту, пад вусамі, паглядаў на Ігната.

— Охо-хо хо!—урэшце цяжка ўздыхнуў Ігнат.— Чорт яго... Охо-хо-хо!—Потым, нібы ў злосьці паглядзеў на Прахора і дадаў:—А то давай заўтра сходзім ужо...

— Я-ж табе кажу! Чаму не пайсьці?

— Ну, дык прыходзь, так, на зорцы.

Прахор узяўся за шапку, каб ісьці дамоў. Ігнат падняўся з лаўкі, дастаў з палацей сваю пістаноўку, адкрыў курок і пачаў сапці ў рулі, каб прачысьціць бранкі. Потым дастаў з скураной торбачкі набоі і пачаў набіваць стрэльбу порахам і шротам. Прахор падняўся з лаўкі і сказаў:

— Ну, дык заўтра, значыць.

— Добра.

Прахор рыпнуў дзьвярыма і пайшоў да хаты, а Ігнат набіў стрэльбу, разуўся, пагасіў сьвет і палез на печку.

Назаўтра Ігнат думаў устаць рана. Трэба было паспаць. Але сон ня браў Ігната. Як толькі ён патушыў сьвет, яму ўспомнілася няпрыемнасьць, якую паведаміла жонка па поваду куніцы. Ігнат уздыхнуў, застагнаў і як мядзьведзь павярнуўся на другі бок. Заплюснуў вочы і рашыў ня думаць. Але думкі зноў набягалі самі сабой, кружыліся ў мазгох, турбавалі Ігната. І неяк неўзнарок успомнілася Ігнату. Быў цёплы, студзеньскі дзень. Белай і мяккай пухавінай лёг першы сьняжок. Ігнат і ня думаў ісьці на паляваньне, але, калі раніцой паглядзеў праз вакно і ўбачыў парошу, сэрца забілася, заныла ў грудзёх. Ігнат схапіў стрэльбу, пачапіў прыпасамі торбу і пабег на „Мядзьвежыя лагі". Раней ён і ня думаў паляваць за куніцай. Але не дайшоўшы да мядзьвежых лагоў, тонкім ланцужком на белым мяккім сьнезе, яму перабегла дарогу куніца.— „А вось да заб'ю",—мільганула думка ў галаве. Ігнат нагнуўся над сьлядамі, пашчупаў іх нават рукой, нібы жадаючы пазнаць, ці даўно прабегла куніца, вынуў капшук з табакай, закурыў, зьняў з плячэй стрэльбу, узьвёў куркі і, асьцярожна ступаючы па мяккаму сьнезе, каб не зрабіць шуму, пайшоў па сьляду. І зноў-жа, неяк зусім неўзнарок, кінулася яму ў вочы прыкметная адна елка ўперадзі, крокаў так за сто. Ігнат спыніўся, выняў з роту чубук люлькі, ня спускаючы вачэй з елкі, ціха сплюнуў, а потым зноў падаўся ўперад. Калі было ўжо недалёка да елкі, ён заўважыў на ёй гняздо белкі. І сэрца тады балюча задрыгала ў грудзёх. Доўга Ігнат стаяў перад елкай, з усіх бакоў аглядаючы яе. Потым падняў адну нагу і паціху зрабіў крок. Трэснуў сучок пад нагой і ў гэты момант гняздо ваверкі рванулася ўперад, заварушылася. Мігам Ігнатава вока злавіла мушку пістаноўкі, а калі дым стрэлу павіс, здаецца, на суччы лесу, пад елкай, у апошніх сьмяротных сударгах, круціўся чорна-серабрысты зьвярок. З якой радасьцю бег

Ігнат да хаты тады з куніцай у руках? Яго ногі, здаецца, не датыкаліся да зямлі,—нібы памаладзеў на пяцьдзесят год. З якой акуратнасьцю і любоў'ю чысьціў ён тады дома сваю пістаноўку і густа, не шкадуючы, карміў яе рулі маслам? А павесіўшы яе на сьценку, сеў за стол і часта кідаў позірк то на стрэльбу, то на куніцу.

Усё гэта, зараз, перад сном успомніў Ігнат. І яшчэ балючэй, яшчэ мацней зашчаміла яго сэрца. Ён ужо і забыўся аб тым, што рашыў ня думаць аб гэтым, а думкі не давалі спакою:—„Як гэта я даверыўся гэтаму сукінаму сыну — канакраду“, — прастагнаў, нібы з прасоньня, Ігнат, успомніўшы пра Сямёна.— „А можа я яшчэ дарэмна ганьбую чалавека? Як жа! Ён-жа, на самай справе, займаўся канакрадзтвам калісь! Але-ж шкуркі даўно ўжо купляе ў мяне і плаціў добра. А хіба ў мінулым годзе ня скруціў пяць рублёў?“.

Такія думкі, адна другой супярэчлівей краталіся ў галаве Ігната. Ужо прапелі і другія пэўні, а Ігнат, як уюн на патэльні, круціўся на печцы, уздыхаў, стагнаў.—„От гэты, яшчэ, Прахор, прыстае. Што яму трэба? Яму, дай, дай шкуркі, і ўсё тут табе,— хоць з сябе зьдзяры!

І чаго яму трэба?!“ Падумаўшы так, яму ўспомнілася зноў куніца.—„А можа і лепш было-б, каб аддаў Прохару. Зьміцер Бусянок боты купіў за шкуркі ў краме. Цімох бабе хустак набраў, дзесяцям сітцу, там, нейкага. Ох-хо-хо!“—зноў застагнаў Ігнат і павярнуўся на печцы.—„Чорт мяне памяшаў зьвязвацца з гэтым Сямёнам“.

Так варочаўся Ігнат аж да трэціх пеўнеў і толькі заснуў, як нехта забарабаніў па вакну. Ігнат нехаця зьлез з печкі, дастаў з пячуркі гарачых углёў, раздуў цяпло і запаліў лямпу. У хату з стрэльбай за плячмі ўвайшоў Прахор.

— Што гэта ты праспаў?

— А, от... толькі задрамаў, аж чую—грукацііць...— нехаця, з прасонку чэшучы патыліцу, адказаў Ігнат і пачаў зьбіраць прылады паляваньня.

V

Яшчэ не патухла ранішняя зорка, калі Прахор з Ігнатам вышлі за калгас, трымаючы кірунак на „Мядзьвежыя лагі“ (так называліся дзялянкі сярод вялізарнага лесу, дзе калісь пладзіліся мядзьведзі). На гэтых дзялянках калгас сеяў гарох, авёс і зайцаў там пладзілася ў вялікай колькасьці. Адышоўшыся кілёмэтры на два ад калгасу зьнікла ўжо і ранішняя зорка. Яшчэ праз некалькі хвілін чырвонай палоскай заіскрыўся ўсход, а яшчэ трохі пазьней, калі паляўнічыя падыходзілі да лесу, сонца краём вылезла з-за небасхілу і загуляла па верхавінах сасонак. Надвор'е было цёплае і ледзь прыкметны паўднёвы вецярок, даносіў да слыху паляўнічых прабуджэньне дня ў калгасе. Недзе рыпеў журавель студні, сакаталі па сьнегу палазы саней, рыкала карова. Калі паляўнічыя ўваходзілі ў лес, з бліжэйшых елак падняўся крумкач і, засьвістаўшы чорнасінімі крыламі, закружыўся ў паветры, аблятаючы паляўнічых.

— Іш, хітрая птаха!—сказаў Цімох.

— Так,—адказаў Прахор.—А вось у вёсцы, дык і на дзесяць крокаў будзе сядзець. Памятае, што тут па ёй не страляюць. Ну, нічога!—падумаўшы трохі, дадаў Прахор.—Зайцоў настраляем, шкуркі здамо, прэмію атрымаем, боты новыя купім. Ты ведаеш, Ігнат? Нашы-ж шкуркі ідуць за мяжу, на машыны.

— Гумм... дааа...—прабурчэў Ігнат.

Прахор зірнуў яму ў вочы і зноў пачаў гаварыць.

— А ты вось, калгасьнік, паляўнічы добры, а ніводнай не прадаў дзяржаве, а некуды аддаеш чорт ведае каму, нейкаму там гандляру Гаркуну.—Прахор трохі памаўчаў, нібы чакаючы адказу ад Ігната. Але апошні маўчаў, нібы пераварваў словы Прахора.—Чорту лысаму. Якая табе карысьць?

Коцік замаргаў вачмі, нібы зьбіраючыся заплакаць, але нічога не адказаў.

— Эх ты, Коцік, Коцік! Толькі шкода мне цябе, што ты гаруеш так век, чарцей лысых кормячы сваёй працай, а так паляўнічыя цябе даўно выкінулі-б з саюзу.

Ігнат нешта хацеў адказаць, але спыніўся, толькі горш замаргаў вачмі.

— Ты паглядзі, хто так робіць, як ты? Вунь паляўнічы Зьмітрок Малы, твой брацёнік, хоць і паляўнічы з яго—нельга раўняць з табой! А глядзі— боты атрымаў за лісаў, хустак набраў за вавёрак, стрэльбу новую—ня то, што твая нейкая пістонаўка чарвівая, старасьвецкая! — купіў па кантракту... А табе, дык ужо і гаварыць не ахвота аб гэтым... аб кантракце значыць...

— Ды я, што? Я праўда... ні таго, як яго... чорт мяне от унёс!..—забурчэў сабе пад нос Ігнат.

Так размаўляючы, яны падыйшлі да „Мядзьвежых логаў“. Дзялянкі доўгімі, даволі шырокімі палоскамі цягнуліся між сьцяной стравога лесу з выцягнутых уверх, роўных, як сьвечкі, сасонак, з белабокіх, кудластых бяроз, з прыземістых магутных, пакрытых сівым мохам, дубоў, такіх-жа самых каранастых, з раскіданым ва ўсе бакі суччам, кляноў і іглістых елак. Зайцавых малькоў з дарогі было шмат, а нашым паляўнічым у гэты час, акрамя гэтага, нічога і не патрэбна. Першы малёк заняў Прахор і пайшоў па ім, паварочваючы то ўлева, то ўправа, то вяртаючыся назад, то зноў пасоўваючыся ўперад і робячы кругі таксама як наблытаў за ноч вельмі вабны для паляўнічага зьвярок. Ігнат-жа пайшоў другім мальком, на чвэртку кілёмэтра ад Прахора.

Прахор усё ішоў уперад, прыглядаючыся да сьледу зайца. Вось адна пятля, другая, круг—а Прахор усё пасоўваецца ўперад. Толькі ён прайшоў некалькі крокаў пасьля другой пятлі, як пачуў ззаду нейкі шолах па сьнезе. Прахор агледзеўся назад і ўбачыў крокаў на сто ад сябе ўцякаўшага зайца.— „Цьфу! Што-б цябе маланка. Як я яго прайшоў і ня ўбачыў?“ Прахор вярнуўся і знайшоў сьвежую лежку зайца. Заяц нібы чакаў, пакуль Прахор мінуе яго, а потым падняўся.

Такі „хітрык“ зайца вельмі азадачыў Прахора, але ён яшчэ больш ад гэтага загарэўся паляўнічым палам і, кінуўшы сьлед узагнанага зьвярка, знайшоў другі малёк і пайшоў ім. Але і з другім зайцам здарылася тое-ж самае. Прахор і тут ня страціў свайго цярпеньня і з яшчэ большай упартасьцю пусьціўся шукаць зайца. І ўсё-ж такі, як ён ня быў асьцярожны, і гэты заяц перахітрыў яго—ускочыў усёроўна ззаду, крокаў на дзесяць, а пакуль Прахор агледзеўся, ды ўскінуў стрэльбу, дык заяц ужо быў па-за стрэлам яго ламанкі. Прахор не ўцярпеў і стрэліў. Зайцу гэта нібы яшчэ больш паддало ахвоты бегчы і ён шэрым клубочкам пакаціўся па белай скацерці дзялянкі. Прахор паглядзеў яму ўсьлед, паскроб пад шапкай патыліцу і плюнуў у той бок, куды пабег заяц...

*(Працяг будзе ў наступным нумары).*

### IV. Работа Белпушніны ў саўгасах

1. Адзначаючы зусім недастаткова зьвернутую ўвагу саўгасаў на справу арганізацыі ў іх пушнога промыслу і зборкі мехсыравіны, пры наяўнасьці значнай сыравіннай базы, асабліва па веснавых відах, абавязаць Белпушніну тэрмінова прыступіць да заключэньня дагавароў з усімі саўгасамі на веснавыя віды і мехавую сыравіну, прадугледзеўшы поўны ахоп у саўгасах пушнасыравінных рэсурсаў, якія там ёсьць.

### V. Плян загатовак веснавых відаў

1. Зацьвердзіць плян загатовак на II кв. 1932 г. па БССР:

| | |
|---|---|
| па пушніне . . . . | 296.800 руб. |
| у тым ліку крот . . | 234.000 „ |
| па мехсыравіне . . . | 128.200 „ |
| Усяго на суму . | 425.000 руб. |

2. У мэтах захаваньня адзінага загатавіцельнага пляну, лічыць неабходным, каб устаноўленыя цэнтрам параённыя пляны не зьмяняліся ў бок зьніжэньня.

### VI. Кантынгент загатавіцеляў

1. На падставе пастановы Ўпаўн. СПА пры СНК БССР ад 9/II г. г. за № 1 аб рэарганізацыі загатоўчага апарату—зацьвердзіць асноўных загатавіцеляў пушмехсыравіны на апошні пэрыяд 1932 г. Белпушніну, Белкахотсаюз і Белкаапсаюз.

2. Загатоўчы апарат і кадры Белхлебжывсаюзу, які займаўся загатоўкай пушмехсыравіны, перадаецца Белпушніне.

### VII. Загатоўчыя цэны

1. Устанавіць на 1932 г. загатоўчыя цэны на веснавыя віды пушмехсыравіны, згодна прыкладзенай пры гэтым табліцы.

2. Абавязаць загатоўчыя арганізацыі давесьці загатоўчыя цэны да нізоўкі (калгас, брыгада, зборшчыкі), а таксама вывесіць табліцы цэн ва ўсіх сельсаветах, хатах-чытальнях, загатпунктах і інш. грамадзкіх месцах.

### VIII. Надбаўка ў пакрыцьцё гандлёвых накладных і арганізацыйных выдаткаў загатавіцеляў

1. Распаўсюдзіць на ўсе віды веснавых пушмехзагатовак тую-ж надбаўку звыш загатцэн на пакрыцьцё гандлёвых накладных выдаткаў загатоўчых арганізацый, якія ўстаноўлены калегіяй НКЗГ СССР ад 21/IX-31 г. за № 36 для БССР.

2. Звыш паказанай надбаўкі з 1-га красавіка ўстанаўляецца дадатковая надбаўка ў разьмеры 1 проц., якая паступае ў распараджэньне цэнтральных загатоўчых арганізацый для прэміраваньня калгасаў, саўгасаў і асобных арганізацый і асоб за ўдарную пастаноўку работы па арганізацыі веснавога промыслу, зборкі пушмехсыравіны і выкананьня пляну загатовак.

3. Школьныя, піянэрскія, камсамольскія і інш. грамадзкія арганізацыі, якія здалі пушніну і мехсыравіну загатавіцелям у арганізаваным парадку, прыраўніваюцца ў адносінах надбаўкі звыш асноўнай коштоўнасьці і атаварваньня такога, да калгасаў.

### IX. Атаварваньне веснавых пушмехавых загатовак

1. Устанавіць наступны парадак атаварваньня веснавых відаў пушмехсыравіны:

| | | |
|---|---|---|
| пры | кантрактацыі з калгасамі, школамі і іншымі грамадзкімі арганізацыямі . . . | 60 проц. |
| „ | групамі, яч. паляўнічых і арцелямі | 50 „ |
| „ | аднаасобнікамі . . . . . . . | 40 „ |
| па-за кантрактацыяй (пакупка на рынку) . . . . | | 35 „ |

2. Прапанаваць Белпушніне свячасова забясьпечыць адпаведным асартымэнтам прамфонды для стымуляваньня загатовак веснавых відаў пушмехсыравіны і тэрмінова накіраваць іх у раёны.

### X. Агульныя мерапрыемствы

1. Улічваючы мэханізацыю пушнога промысла абавязаць Белпушніну забясьпечыць усе загатоўчыя арганізацыі на ўвесь сэзон загатовак 1932 году 500.000 пасткамі для лову крата і 200.000 пасткамі для лову пацукоў, а таксама забясьпечыць адпаведнай колькасьцю плякатаў і інструкцый па здабычы і загатоўцы крата і пацука.

2. У мэтах апэрацыйнай увязкі загатарганізацый з калгасамі, прасіць Белкалгасцэнтр выдаць спэцыяльную пастанову з канкрэтным практычным удзелам калгаснай сыстэмы ў веснавой пушмехзагатоўчай кампаніі.

3. Загатарганізацыям разгарнуць масавую працу па ўнядрэньні ў справу веснавых пушмехзагатовак мэтадаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Практыкуючы заахвочваючае прэміраваньне найбольш лепшых раёнаў, арганізацый, брыгад, школ, асобных лаўцоў, паляўнічых і зборшчыкаў, як з фондаў, якія ёсьць у загатарганізацый, так і згодна вызначанага ў VIII разьдзеле гэтай пастановы.

4. Загатарганізацыям максымальна прыцягнуць да справы папулярызацыі веснавых загатовак пушмехсыравіны цэнтральны, раённы і калгасны друк і спэцыяльна выпусьціць лістоўкі пры Ўпаўн. НКЗГ па веснавой загаткампаніі.

Упаўн. НКЗГ па БССР **Рэдэр.**

## Дадатак да пастановы Ўпаўн. НКЗГ пры СНКБ ад 4|IV-32 г.

### Табліца цэн на веснавыя віды пушніны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Крот . . . . | 45 к. | 6. Жарабок чорны | 5 р. |
| 2. Пацук. вадз. . . | 20 „ | 7. Жарабок страк. | 7 р. 50 к. |
| 3. Соня Палчак . . | 40 „ | 8. Мярлушка . | 1 р. 25 „ |
| 4. Сусьлік . . . . | 30 „ | 9. Козьлік лак. . . | 75 „ |
| 5. Жарабок памер | 6 р. 25 „ | | |

**Рэдкалегія: Тамашэўскі, Цэлеш, Волдынь, проф. Фядзюшын.**

**Адказны рэдактар П. Тамашэўскі.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1071. 14.000 экз. Галоўлітбел № А—3.

Цана 30 кап.

# ТАВАРЫШ, ТЫ ХОЧАШ ВЕДАЦЬ,

як трэба весьці на калектыўных пачатках паляўнічую гаспадарку? Як арганізаваць калектыўнае разьвядзеньне каштоўных пушных зьвяроў? Як арганізаваць трусятнік? Як выбраць і прыстраляць стрэльбу? Як выбраць сабаку для паляваньня? Якія спосабы паляваньня могуць даць лепшыя вынікі? Дзе жывуць розныя прамыслова-паляўнічыя зьверы і птушкі? Якія іх прывычкі? Якія неабходныя ўмовы, каб іх было больш у паляўнічых угодзьдзях? Чым вы можаце дапамагчы ў справе вывучэньня паляўнічай гаспадаркі? Чым дапамагчы сыстэме паляўнічай каапэрацыі ў хутчэйшай арганізацыі паляўнічай гаспадаркі? Як самому ўключыцца ў работу гэтай галіны?

**НА ЎСЕ ГЭТЫЯ І ДРУГІЯ, ЦІКАВЯЧЫЯ ВАС, ПЫТАНЬНІ ТЫ МОЖАШ АТРЫМАЦЬ ВЫЧАРПАЛЬНЫЯ АДКАЗЫ.**

## ВЫПІСВАЙ НА 1932 ГОД ЧАСОПІС

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

Орган прамыслова-каапэрацыйнага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗУ“.

**САЮЗЫ, ТАВАРЫСТВЫ І ПАЛЯЎНІЧЫЯ ЯЧЭЙКІ!**
Вылучайце арганізатараў падпіскі на нашу часопіс.

У часопісі шырока асьвятляюцца пытаньні паляўнічае каапэрацыі, будаўніцтва калектыўнай паляўнічай гаспадаркі, жыцьцё і норавы зьвяроў і птушак, пушная справа, паляўнічае права, спосабы паляваньня, сабакагадоўля, ружэйная тэхніка. Асобную ўвагу часопісь будзе аддаваць пытаньням будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, калектыўнай пушной зьверагадоўлі і трусагадоўлі, а таксама біолёгії прамыслова-паляўнічых жывёл, бо веды яе забясьпечваюць пасьпяховасьць паляваньня і паскараюць тэмп сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічага промыслу ў рацыянальную паляўнічую гаспадарку.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | |
|---|---|
| на 1 год | 2 р. 40 к. |
| на паўгода | 1 „ 20 „ |
| на 3 мес. | — 60 „ |

На меншы тэрмін падпіска ня прымаецца.

**У 1932 годзе ў часопісі мяркуецца адкрыць спэцыяльны аддзел, асьвятляючы пытаньні рыбаводзтва і рыбалоўства.**

**Падпіску і грошы накіроўваць: Менск, Кіраўніцтва сувязі, або ў бліжэйшае паштовае аддзяленьне.**

**Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68, выдавецтва „Калгасьнік Беларусі“.**